

Жыве Беларусь!

# БЕЛАРУС

Address: P.O. Box 3225 Farmingdale, NY 11735

BIELARUS / Belarusan newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n Inc.

№ 488 Верасень 2003 г. Год выданьня 54

# Сустрэча з амбасадарам Кролам



У грамадзкай залі пры царкве Маці Божай Жыровіцкай у Гайленд Парку, Нью Джэрзы, 23-га жніўня адбылася сустрэча беларускай грамадзкасьці штатаў Нью Ерку і Нью Джэрзы з новапрызначаным амбасадарам Злучаных Штатаў Амэрыкі ў Беларусі сп. Джорджам Кролам. Высокага госьця прысутным прадставіў старшыня аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзы сп. Юрка Азарка, вёў сустрэчу выдавец квартальніку Belarusian Review ("Беларускі Агляд") сп. Вячка Станкевіч.

Напачатку сустрэчы амбасадар Крол прывітаў прысутных і выступіў з прамоваю па-беларуску, у якой распавёў пра свой досьвед працы ў Беларусі яшчэ ад часоў адкрыцьця першай амэрыканскай амбасады ў Менску, пра свае ўражаньні ад краю і людзей, а таксама акрэсьліў пляны сваёй дзейнасьці ў функцыі амбасадара Злучаных Штатаў.

Амбасадар Дж. Крол адназаў на пытаньні прысутных, адбыліся гутаркі й абмен думак па розных палітычных ды іншых праблемах. Сустрэча праходзіла пры поўнай залі й выклікала надзвычайную цікавасьць і энтузыязм. На ўспамін аб сустрэчы амбасадар Дж. Крол атрымаў падарунак - кубак з нацыянальным арнамэнтам і аўдыёкурс беларускай мовы "Conversational Belarusian" (дарэчы, інфармацыю пра курс можна знайсьці на старонцы www.belarusianreview.org). Напрыканцы сустрэчы было заяўлена пра карысьць такіх імпрэзаў і вы-



# Сабор БАПЦ

30-га жніўня 2003-га году ў храме Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд Парку, штат Нью Джэрзі, адбыўся Сабор Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы - вышэйшай Царкоўнай ўлады.

На пачатку быў адслужаны малебен і пасля дабраслаўленьня Высокапачэсным Мітрапалітам Ізяславам, Першагерархам БАПЦ, пачаўся Царкоўны Сабор, у якім, акрамя дзеючага сьвятарства БАПЦ, прынялі ўдзел дэлегаты з большасьці парафіяў і госьці. Дэлегаты, якія не змаглі прыбыць на Сабор, даслалі свае пісьмовыя ўпаўнаважаньні. Вядучым Сабору быў абраны айцец іярэй Вячаслаў Логін, настаяцель парафіі ў Гайленд Парку. Сакратар Сабору Сяргей Трыгубовіч зачытаў прывітаньні ад сьвятароў, якія не змаглі прысутнічаць - айца архімандрыта Дэніэла, настаяцеля Валійскае Місіі Ўсіх Валійскіх Сьвятых (Вялікабрытанія) і айца пратапрасьвіцера Аляксандра Кулакоўскага, настаяцеля парафіі Сьв. Віленскіх Мучанікаў (Аўстралія). Старшыня Мандатнае Камісіі айцец іярэй Ігар Якунін паведаміў колькасьць дэлегатаў і ўпаўнаважаньняў і пацьвердзіў правамоцнасьць Сабору паводле Статуту БАПЦ.

З уступнаю прамоваю выступіў старэйшы дзеючы сьвятар БАПЦ, Архімандрыт Карп Стар, настаяцель парафіі Св. Троіцы ў Дораты, Нью Джэрзі. Ён заклікаў удзельнікаў Сабору да згоды й да духоўнага яднаньня ўсіх вернікаў і сьвятарства і зьвярнуўся да Госпада па дабраслаўленьне на супольныя добрыя справы для Царквы й Бацькаўшчыны.

З дакладам аб сучасным стане і дзейнасьці БАПЦ за перыяд пасьля мінулага Царкоўнага Сабору выступіў сакратар Кансысторыі Барыс Данілюк. У сваім дакладзе ён кранууся дзейнасьці Першагерарха і Кансысторыі ў пытаньнях падрыхтоўкі сьвятароў, спробах палагоджаньня колішняга расколу ў БАПЦ, дачыненьнях зь іншымі праваслаўнымі цэрквамі, праблемах адраджэньня Беларускага Праваслаўя ў Беларусі. Ён таксама паведаміў аб фінансавым стане Кансысторыі й прапанаваў аднавіць выданьне Календара і квартальнага лістка.



*На здымку: сакратар Сабору Сяргей Трыгубовіч, а. Карп Стар, Мітрапаліт Ізяслаў, а. Ігар Якунін, а. Вячаслаў Логін падчас адкрыцьця Сабору.*

Ад Кансысторыі часткі БАПЦ, што дзейнічала пад амафорам Сьв. Памяці Ўладыкі Мікалая, справаздачу зрабіў скарбнік Аляксандар Сільвановіч. Вялікай часткай дзейнасьці БАПЦ за апошняе дзесяцігодзьдзе была дапамога пацярпелым ад Чарнобыльскай аварыі. Было сабрана і пераслана ў Беларусь некалькі кантэйнераў зь лекамі, вітамінамі й мэдыкамэнтамі агульнаю вартасьцю каля 5-ці мільёнаў даляраў. Для перавозкі кантэйнераў у Беларусь вернікі БАПЦ ахвяравалі 57 тысяч даляраў. Разьмеркаваньне дапамогі адбывалася ў прысутнасьці прадстаўнікоў БАПЦ, каб лекі дайшлі да тых, каму яны былі найбольш патрэбныя. Дапамогу стараліся прывезьці ў шпіталі ў малых гарадох і мястэчках. У справаздачы ён таксама ўзгадаў пытаньне пераемства іярархіі БАПЦ.

Прагучалі выступы прадстаўнікоў парафіяў. Аб жыцьці ў Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне распавёў ягоны настаяцель айцец іярэй Ігар Якунін. Ён паведаміў пра ахвярную дзейнасьць парафіянаў у справе рамонту храма, выпуску парафіяльнага лістка і фармаваньні бібліятэкі. Парафія наладжвае дачыненьні зь беларускімі грамадзкімі арганізацыямі ў Нью Ёрку.

Дэлегат Руслан Качаткоў ад парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта, Канада, акцэнтаваў увагу на патрэбе прызначэньня сталага сьвятара, безь якога Багаслужбы адбываюцца непэрыядычна, прыгадаў набышую попыт беларускую бібліятэку і актыўную грамадзка-культурную дзейнасьць маладых парафіянаў.

Шматгадовы старшыня парафіяльнае рады парафіі ў Гайленд Парку Віктар Дубяга паведаміў пра актыўны ўдзел парафіянаў у царкоўным жыцьці й у хоры, а таксама пра ахвярнасьць парафіянаў у справе ўтрыманьня царкоўнага будынку і могілак у Іст Брансвіку.

Упаўнаважаныя ад парафіяў распавялі аб сытуацыі ў парафіях Аўстраліі Св. Пятра і Паўла ў Адэляйдзе і Сьв. Трох Віленскіх Мучанікаў у Мэльбурне. Была ўзгаданая парафія Жыровіцкай Божай Маці ў Манчэстары, Англія, дзе доўгія гады выконвае пастырскія абавязкі айцец пратапрасьвіцер Ян Абабурка. Галоўным пытаньнем у згаданых храмах ёсьць праблема маладых царкоўных кадраў.

Дыскусіі разгарнуліся вакол пытаньняў нацыянальна-патрыятычнай дзейнасьці БАПЦ і аб паступовым уводзе ў Багаслужбу беларускае мовы поруч з царкоўна-славянскаю і дзяржаўнаю мовою краіны, дзе знаходзіцца царква.

Асобнай рэзалюцыяй была пацьверджаная пастанова Мітапаліта Мікалая з 2002-га году аб адлучэньні ад БАПЦ япіскапа Аляксандра (Салагуба), хіратонія якога не была ўхваленая Радаю БАПЦ, як гэтага вымагаў Статут БАПЦ.

Адным з апошніх пытаньняў на парадку дня Сабору было прыняцьце новага Статуту БАПЦ, праект якога падрыхтавала Статутная Камісія. Паводле Статуту БАПЦ была абрана новая Царкоўная Рада, у якую ўвайшлі сьвятары й вернікі. Яе ачоліў Мітрапаліт Ізяслаў.

*а. Вячаслаў ЛОГІН*

# Сустрэча з амбасадарам

8-га жніўня ў Вашынгтоне адбылася сустрэча прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў у ЗША зь нядаўна прызначаным на пасаду амбасадара Злучаных Штатаў у Беларусі сп. Джорджам Кролам. Сп. Крол зрабіў заяву для прысутных. Падчас сустрэчы абмяркоўваліся пытаньні, якія ўяўлялі цікавасьць для абодвух бакоў.

# Спатканьне ў Празе

На наступны дзень пасьля сьвята незалежнасьці Беларусі, 28 ліпеня, у Празе адбылася вельмі важная падзея. Старшыня Сэнату Чэскае рэспублікі Пэтр Пітгард правёў афіцыйную сустрэчу з прадстаўнікамі беларускіх эмігрантаў у Чэхіі. У перамовах з спадаром Пітгардам прынялі ўдзел Аўген Сідорык, Старшыня Зьвязу Беларусаў Замежжа, Натальля Маковік, выканаўчы сакратар Камітэту "За свабодную Беларусь", Ільля Глыбоўскі, прадстаўнік суполкі імя Скарыны, і Сяргей Навумчык, намесьнік Старшыні Рады БНР.

Спадар Пітгард выказаў надзвычайную зацікаўленасьць усім, што адбываецца ў Беларусі. Ен зазначыў, што стварэньне ў чэскім парляманце Камітэту "За свабодную Беларусь" - вельмі важная падзея, а таму ён далучаецца да ініцыятывы сэнатараў і дэпутатаў. Старшыня сэнату адразу паставіў свой подпіс пад заявао палітыкаў, у якой яны падтрымліваюць беларускую апазыцыю і пратэстуюць супраць рэжыму Лукашэнкі.

Аднак, у адрозьненьні ад звычайных афіцыйных сустрэчаў, гэтае спатканьне мела і практычныя вынікі. Па-першае, спадар Пітгард заявіў аб сваім намеры асабіста прымаць удзел у дзейнасьці Камітэту "За свабодную Беларусь".

Па-другое, як актыўны сябра Камітэту, ён выраш ыў ініцыяваць у Сэнаце слуханьні па пытаньні "СМІ ў Беларусі". Як дамовіліся ўдзельнікі сустрэчы, у слуханьні прымуць удзел рэдактары забароненых у Беларусі выданьняў і прадстаўнікі праваабарончых арганізацыяў. Такое слуханьне мае вельмі вялікую моц, бо рэзалюцыя, прынятая пасьля паседжаньня, абавязковая для выкананьня. Зразумела, што пасьля выступленьняў у Парляманце беларускіх журналістаў чэскія палітыкі прымуць заяву, якая не спадабаецца афіцыйным уладам Беларусі. Неабходна таксама дадаць, што апошнее слуханьне па беларускай тэматыцы адбылося 4 гады назад.

Па-трэцяе, старшыня Сэнату паабяцаў асабіста заклікаць чэскі ўрад да ўвядзеньня ў склад камісіі ураду па нацыянальных меньшасьцях прадстаўніка беларускай дыяспары. Беларуская грамада ў Чэхіі - далёка на самая вялікая ў краіне, аднак ейная актыўнасьць дасягае высокага ўзроўню. Акрамя таго, Чэхія такім чынам магла-б стацца своеасаблівым гарантам захаваньня беларускай культуры, пакуль у самой Беларусі ўладарыць дыктатура.

Напрыканцы сустрэчы Пэтр Пітгард пажадаў прадстаўнікам беларускай эміграцыі посьпехаў, а беларускай апазыцыі - зьмены ўлады.

# Паніхіда і вечар памяці

Васіля Быкава адбыліся ў таронцкай царкве Сьв. К. Тураўскага 1-га жніўня.

Сьвятар сэрб а. Васа распачаў малебен вечарам а гадзіне 7-й. Мне давялося сьпяваць (у нас няма хору) і разам з малітвамі за Васіля Быкава прасіць Госпада Бога прыняць у яго ўлоньне маю сястру Элізавету, якая памерла ў Каралеўшчыне, Докшыцкага раёну, якраз дзень перад тым, 31-га ліпеня.

Для азнаямленьня з Васілём Быкавым тых, хто ня ведалі яго зь літаратурнага творчага поля або ацэнкі яго, як "сумленьня беларускай нацыі", быў прачытаны артыкул "Выступленьне на Кангрэсе беларусістаў" з травеня 1991-га году. (Гл. "На крыжах" В. Быкава). У сваім звароце геніяльны пісьменьнік заклікае да здабыцьця незалежнай дзяржавы, маючы "як і заўсёды, найбольшыя спадзяваньні на нашую мову, гэты галоўны набытак, нашае гістарычнае апірышча. Нездарма яе так зьнішчалі ў стагодзьдзях - забаранялі, аплёўвалі, адвучвалі цэлыя пакаленьні - у імпэрыі патрэбная была адная, унітарная мова. Але калі мы, нацыянальна панішчаныя, клясава разьеднаныя, спаскуджаныя шматгадовай маной, нешта значым у сусьветнай суполцы народаў, дык найперш праз нашую мову. Безь яе ад нас не засталося-б і сьледу, як не засталося ад колішніх тутэйшых ятвягаў... Мова верна служыла народу ў добры й благі час, ратавала ягонае існаваньне і ніколі ня здраджвала яму. Гэта ёй нярэдка здраджвалі ў Беларусі, за што былі бязьлітасна караныя Богам і гісторыяй."

Родная мова! Яе цэнім і захоўваем у Канадзе дзякуючы Згуртаваньню Беларусаў Канады, якому сёлета ў лістападзе споўніцца 55 гадоў, ды іншым арганізацыям.

Васіль Быкаў быў кантакце з намі ад часу абвешчаньня незалежнай Беларускай Рэспублікі. Мы ўдзячныя яму ды асабліва задаволеныя за тую пашану, якую наш народ аддаў яму ў Менску пры паховінах.

Адзін з нас, сп. Руслан Качаткоў, хваліў пісьменьніка, якога ведаў і часта сустракаўся ў сваім маладым веку.

Вечар скончылі адсьпяваньнем гімну "Магутны Божа".

*К. АКУЛА*

**ПАПРАЎКА:** У артыкуле пра кнігу Ан Эплбаўм "ГУЛАГ" памылкова было адзначана, што ў кнізе не ўспамінаецца пра Курапаты. Аўтарка ўзгадвае пра Курапаты, Яны ўспамінаюцца ўскосна, як прыклад імкненьня зацерці памяць пра сталінскія рэпрэсіі, і ўзгадваецца пра будаўніцтва дарогі праз Курапаты.

### ЛАТКЕС, АЛАДКІ, ДРАНІКІ - ЗАПАЗЫЧАНЬНЕ, АЛЕ ЧЫ?

У папярэднім нумары газэты, у нататцы пра дранікі неабгрунтавана сьцьвярджалася, што дранікі ды назва латкес-аладкі прыйшлі да беларусаў праз гэбраяў. Усе сьведчаньні этнаграфічныя ды лінгвістычныя паказваюць на тое, што адбывалася ўсё дакладна наадварот - дранікі, як страва, ды іхная назва былі запазычаныя гэбраямі. На смак дранікаў і на узаемаадносіны паміж народамі гэта, спадзяемся, не ўплывае.

*Віталь ЗАЙКА*

# Паломніцтва да Сьвятыняў

адбылося 16-га ліпеня 2003-га году. Ініцыятарам паломніцтва быў др. Пётра Мурзёнак, Старшыня Галоўнай Управы ЗБК з Атавы. Нядаўна прыехалі да яго бацькі зь Беларусі, і ён вырашыў зрабіць зь імі й сям'ёю паломніцтва да Беларускага Сьвятога Месца - "Belarusan Shrine", што складаецца зь Беларускага Памятнага Крыжа і Помніка "Памяці ахвяраў камуністычнага тэрору ў Беларусі". Абодва беларускія манумэнты акоЛеныя абапал вялікімі валунамі ды з правага боку ялінкаю, прывезенаю са Слуцаку (канадыйскага). Да паломнікаў з Атавы далучылася др. Раіса Жук-Грышкевіч з Бэры. Паломнікі ўзялі з сабою чатыры сьвечкі.

"Запалю я сьвечачку, запалю,
Па душах пакутнікаў запалю...
На пакуты шчодрая ім была зямля...
Божа міласэрдны наш, прымі іх у
райскі сад".

Паломнікі запалілі сьвечкі перад Памнікам Пакутнікам, якому 1-га чэрвеня сёлета споўнілася сем гадоў, прачыталі надпісы на бронзавых мэмарыяльных табліцах: на Крыжы - па-ангельску і па-беларуску, і на Помніку - па-ангельску, па-беларуску і па-француску.

Як да набажэнства сталі ўсе перад Крыжом. Сказалі ўголас па-беларуску малітвы "Ойча наш" і "Уладару Нябесны", прачыталі верш Натальлі Арсеньневай "Крыж" і ў канцы адсьпявалі гімн "Магутны Божа". Затым паломнікі агледзелі манумэнты Прошчы: помнік "Памяці ненароджаных дзяцей", італійскую скульптуру "Сьвятая сям'я", помнікі філіпінскі, славацкі, партугальскі, харвацкі, польскі, летувіскі, украінскі, славенскі, нямецкі й іншыя. Зайшлі ў касьцёл праверылі ці ёсьць там цяпер беларускія малітоўныя карткі. Кожны ўзяў іх сабе на памяць. Нарэшце, зайшлі ў офіс прадстаўніцтва і прывітацца з кіраўніцтвам Прошчы ды замовілі адслужыць у касьцёле імшу "За Беларусь". Багаслужба адпраўлялася ў касьцёле Прошчы 21-га ліпеня.

Вяртаючыся назад, затрымаліся ў кватэры Жук-Грышкевічаў на палудзень, а пасьля паломнікі з Атавы вырушылі ў далёкае падарожжа дахаты. Так па-людзку і па-божаму адзначылі мы 15-я ўгодкі Беларускага Памятнага Крыжа ў Канадзе. Слава Табе Госпадзе, слава Табе!

*Камунікат №3 (77) Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады*



# Гадавы сход

## Беларускага Аб'еднаньня ў Пэрце (Аўстралія)

Гадавы зьезд Беларускага Аб'еднаньня ў Заходняй Аўстраліі прайшоў 3-га жніўня ў залі Беларускай Грамадзкай Хаты па 43 Драйнан стрыт ў Байсвотэр.

Адкрыў зьезд Старшыня ўступаючай управы Міхась Раецкі-малодшы. У празыдыюм зьезду былі выбраныя: Міхась Раецкі-старэйшы і Марылька Ёлаб. Справаздачу з агульнай дзейнасьці арганізацыі здаў Міхась Раецкі-малодшы, з фінансавай - Алекс Мароз, вонкавых сувязяў - Міхась Раецкі-старэйшы. Усе справаздачы былі прынятыя вельмі прыхільна. У новую Управу былі абраныя: Старшыня - Міхась Раецкі-малодшы, заступнік старшыні - Міхась Ёлаб, сакратар - Марылька Ёлаб, скарбнік - Алекс Мароз, вонкавыя сувязі - Міхась Раецкі-старэйшы, прэса - Марыя Мароз.

Пасьля выбараў праходзілі размовы ў справе сплаты залежнасьці пазычаных грошай на пабудову Грамадзкай Хаты. Закончыўся зьезд агульным пачастункам, за падрыхтоўку якога належыцца шчырая падзяка спадарыням: С. Ніжнік, М. Мароз, Руце Бразоўскай і Марыльцы Ёлаб.

* * *

Ушанаваньне памяці прарока беларускай зямлі Янкі Купалы сёлета з агляду на ашчаднасьць часу, было аб'еднанае ў адную акцыю, якая адбылася 6-га ліпеня ў Беларускай Грамадзкай Хаце.

Пачалася ўрачыстасьць Купалавай песьняй "Я ад вас далёка", а з цікавымі дакладамі па-беларуску і па-ангельску выступілі малодшы й старэйшы Раецкія.

Пасьля афіцыйнай часткі ўдзельнікі перайшлі з размовамі на справы арганізацыі, па заканчэньні якіх адбыўся пачастунак.

*Р. М.*

# Пакарэньне Парыжу

На фінішаваўшым у апошні ўік-энд жніўня ў Парыжы чэмпіянаце сьвету па лёгкай атлетыцы трыўмфальна выступілі беларускія спартоўцы. Сем медалёў (тры залатыя, срэбраны і тры бронзавыя) узьнялі беларускую каманду на высокае чацьвёртае месца ў сьпісе 203 (!) краінаў-удзельніцаў сусьветнага форуму. У эўрапейскім табелі аб рангах беларусы ўладкаваліся на другой пазыцыі сьледам за Расеяй. На вышэйшую прыступку п'едэсталу ўзыйшлі Ірына Ятчанка (кіданьне дыску), Іван Ціхан (кіданьне молату) і Андрэй Міхневіч (штурханьне ядра). Лепшым трэнерам першынства стаўся беларускі спэцыяліст Уладзімер Сіўцоў, які падрыхтаваў двух чэмпіёнаў і ўладальніка бронзавага медаля.

Посьпех беларусаў быў з захапленьнем успрыняты заўзятарамі й спартоўцамі з розных куткоў плянэты. Французы сустракалі нашых суродзічаў воплескамі, узьнімалі рукі ўгору і паўтаралі: "Oh, Belarus!" Вельмі прыязна, шчыра віталі наш посьпех украінцы. Ды толькі расейцы рэагавалі надта холадна і нават агрэсыўна, бо бачылі ў суседзях галоўных канкурэнтаў.

*К. ЛАШКЕВІЧ*



# ЗВАРОТ

**Сабору БАПЦ, што адбыўся ў Гайленд-Парку, штат Нью-Джэрзі, 30-га жніўня 2003-га году да праваслаўных беларусаў у дыяспары й на Бацькаўшчыне**

Дарагія ў Хрысьце браты й сёстры!

У сёньняшнім цяжкім для нашага народу часе ўсім нам патрэбная збаўленчая сіла Хрыстовага вучэньня. Хрыстос вучыў любіць адзін аднаго, дапамагаць тым, хто патрабуе дапамогі, спачуваць тым, хто пакутуе, падтрымліваць на духу тых, хто абезнадзеіўся. Такіх людзей у Беларусі сёньня вялікая колькасьць і, як выглядае, лік іх з кожным годам расьце.

Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква (БАПЦ) ад часу свайго заснаваньня многія стагодзьдзі таму назад выконвае ролю ахоўніка душы й маралі нашага народу, спрыяльніка ягонаму духоваму і матар'яльнаму дабрабыту. Такая высакародная місія выплывае з самой ідэі аўтакефаліі, гэта значыць зь ідэі служэньня перш-наперш свайму народу. Палюбі свайго бліжняга, як самога сябе, навучаў Хрыстос.

Аўтакефалія - гэта самакіраўніцтва, гэта спалучанасьць рэлігійнага жыцьця з нацыянальнымі сьвецкімі патрэбамі ды інтарэсамі. У большыні праваслаўных краінаў (Баўгарыя, Сэрбія, Румынія ды іншыя) краёвыя цэрквы ўгрунтаваныя на прынцыпах аўтакефаліі. БАПЦ у замежжы, адноўленая ў 1948-м годзе, перахоўвае гэты прынцып. Дбаючы пра духовае і матар'яльнае адраджэньне Беларусі, БАПЦ ушаноўвае з асаблівай увагай сьвятых свайго народу, карыстаецца ў Багаслужбах і пропаведзях беларускай мовай, спрыяе пашырэньню друкаванага роднага слова. Усё гэта ў згодзе з запаветам Збаўцы нашага Ісуса Хрыста, які пасьля ўваскрасеньня сказаў апосталам: "Дык ідзеце, навучайце ЎСЕ НАРОДЫ" (Мц. 28:19). Наш беларускі народ павінна навучаць СВАЯ праваслаўная царква. А "своя" - гэта значыць аўтакефальная.

Чарговы сабор БАПЦ быў скліканы з думкаю пра ўмацаваньне й пашырэньне праваслаўя сярод беларусаў у замежжы й на Бацькаўшчыне. Сабор прыняў пастановы аб удасканаленьні структуры й кіраўніцтва БАПЦ, а таксама аб узмацненьні сувязяў паміж прыходамі замежжа з прыходамі ў Беларусі. Былі абмеркаваныя таксама пытаньні матар'яльнай дапамогі праваслаўным прыходам на Бацькаўшчыне.

Няхай нам Бог дапаможа ў праслаўляньні Божага імя ды ў нашым служэньні свайму народу.



*Рада Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы.*

# Разьвітаньне з сьв. пам. Паўлам Гузам

З смуткам паведамляем аб вялікай страце беларускага грамадзкага дзеяча і патрыёта нашай Бацькаўшчыны Беларусі. 17-га жніўня 2003-га году пасьля цяжкай хваробы Павал Гуз адыйшоў ад нас назаўсёды. 21-га жніўня беларусы штату Вікторыя разьвіталіся з адданым дзеячом грамадзкага жыцьця ў Аўстраліі.

Павал Гуз нарадзіўся 15-га жніўня 1924-га году ў вёсцы Дуброва Рэчыцкага раёну Гомельскай вобласьці. Усё сваё жыцьцё прысьвяціў дабрабыту свае сям'і й беларускай грамадзкай працы. На працягу 54-х гадоў у Аўстраліі ён займаў шматлікія адказныя пасады ў беларускіх арганізацыях, якія выконваў шчыра і добрасумленна. Беларусы ў Аўстраліі будуць яго заўсёды памятаць зь вялікаю павагаю.

Настаяцель царквы Сьвятых Віленскіх Мучанікаў БАПЦ у Мэльбурне а. Аляксандар Кулакоўскі адслужыў пахавальны абрад за ўпакой душы сьв. пам. Паўла Гуза. Пахаваны Павал на беларускіх магілках у раёне Фокнэр. Вялікі натоўп сабраўся, каб аддаць належны гонар паважанаму сябру і супрацоўніку. Перад труною, пакрытаю бел-чырвона-белым сьцягам, усе прысутныя праспявалі жалобны марш "Сьпі пад курганам герояў". Затым ад Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі разьвітальныя словы сказаў сп. Аўген Груша, ад Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Вікторыі сп. Янка Барысевіч, ад Беларускага Вызвольнага Фронту сп. Алег Шнэк і брат памерлага а. Аляксандар Грыцук. Малодшы сын Паўла Мікалай намагаўся разьвітацца з бацькам, але жаль і сьлёзы не далі яму сказаць ніводнага слова.

Труну апусьцілі ў магілу, і кожны сыпнуў жменьку роднай зямлі, прывезенай зь Беларусі.

Беларуская грамада выказвае глыбокія спачуваньні ўсім родным сьв. пам. Паўла Гуза.

*Алег ШНЭК*




# Газэты Ангельшчыны аб Беларусі

У Англіі выходзіць штодзённая польская газэта "Dziennik Polski", у суботу яна ўжо называецца "Tydzien Polski". У газэце часта пішацца пра Беларусь, аб ведамых людзях польскага паходжаньня, якія там нарадзіліся, аб гарадох, касьцёлах і г. д. Зьмест артыкулаў за малым выняткам ёсьць аб'ектыўным.

07.06.03 у суботнім нумары быў надрукаваны артыкул "Што там, пане, на Беларусі?", які складаецца з шасьці частак. У першай частцы апісваецца цяперашні беларускі герб, які, паводле аўтара артыкулу Адама Ф. Вайцяхоўскага, нагадвае даўні герб БССР з малымі зьменамі. У доме гарвыканкаму ў Баранавічах ёсьць цяперашні сьцяг і герб, а вось на блізкім будынку раённых уладаў ёсьць герб з серпам і молатам. Калі журналіст запытаў дзяжурнага афіцэра аб гэтым, той адказаў, што такімі дробязямі тут ніхто не цікавіцца. Варта дадаць, што вывешваньне савецкіх сымбаляў лічыцца дробязьзю, але бел-чырвонага-белага сьцягу і Пагоні... крымінальным злачынствам.

У другой частцы артыкулу сп. Вайцяхоўскі апісвае адносіны беларусаў да цяперашняга дзяржаўнага сьцягу. У будынку баранавіцкага шпіталю той сьцяг таксама замянілі былым БССРаўскім з-за недахопу фінансаў, каб набыць сёняшні.

"Мова ёсьць, бадай, найважнейшым элементам нацыянальнай тоеснасьці", сьцьвярджае сп. Вайцяхоўскі. Але ў Беларусі беларуская мова ў няласцы. Усюды чуецца расейшчына. У школах дзеці спачатку вучацца чытаць і пісаць па-расейску, і толькі потым па-беларуску. Вышэйшую адукацыю можна здабыць толькі на расейскай мове. Прыкра, балюча і сорамна чытаць гэтую частку артыкула.

Чацьвёртую частку аўтар пачынае словамі, што "беларуская нацыянальнасьць у стане адраджэньня". Важнаю датаю ёсьць дзень 17-га верасьня, дзень, калі Чырвоная Армія прыйшла ў Заходнюю Беларусь. Вуліцы 17-га верасьня можна знайсьці ва ўсіх буйнейшых населеных пунктах.

Помнікам Леніну і Дзяржынскаму ў Беларусі нічога не пагражае. Паводле сп. Вайцяхоўскага, Адама Міцкевіча паважаюць у Беларусі. У Наваградку і Завосьсі ёсьць ягоныя музэі.

У пятай частцы апісваецца жыцьцё палякаў у Беларусі. Аўтар называе іх беларусамі польскага паходжаньня, але ня раіць ужываць такую назву ў іх асяродзьдзі. Палякі ў Беларусі ўважаюць сябе "палякамі, якія жывуць па-за межамі краю". Маладое пакаленьне палякаў у Баранавічах ня хоча, каб Польшча ўступала ў Эўразьвяз, бо гэта ўскладаніць кантакты зь ёю.

Апошні разьдзел ёсьць падсумаваньнем. На думку сп. Вайцяхоўскага, палякі павінны імкнуцца да таго, каб беларусы пачалі глядзець у бок Бруксэлю, а не Масквы. Ён дае вельмі добрую параду, што навучаньне беларусаў моцнае нацыянальнае сьведамасьці будзе важным і вырашальным чыньнікам у будучым краіны.

У дадатку да суботняй газэты "The Daily Telegraph" ад 14.06.03 быў доўгі артыкул з фатаграфіямі аб беларускіх тэнісістах. Узгадваецца падаючая вялікія надзеі 13-гадовая Вікторыя (Віка) Азаранка, 7-гадовая Віялета Шаталава, 16-гадовая Даша Кустова ды іншыя. Аўтар артыкулу Пітэр Фостэр лічыць, што ў бліжэйшыя дзесяць гадоў тэнісісты з Усходняе Эўропы будуць адыгрываць вядучую ролю ў сусьветным тэнісе. З артыкулу вынікае, што маладыя спартоўкі не займаюцца спортам дзеля спорту, альбо для асабістай славы ці славы Бацькаўшчыны. Мэтаю ёсьць дабіцца лепшага матар'яльнага жыцьця. Зрэшты, так было амаль заўсёды ў цэлым сьвеце, ёсьць цяпер і будзе ў будучым.

У канцы майго агляду трохі асабістых заўвагаў. У Англіі часта бываюць беларускія спартоўцы, яны дабіваюцца перамогаў, якімі мы цешымся і ганарымся, але гэтыя людзі ніколі не цікавяцца жыцьцём беларускай дыяспары ў Англіі. Ведаю, што польскія спартоўцы адведваюць польскія асяродкі ў Лёндане. У нас заўсёды інакш...

22-га чэрвеня перастала біцца сэрца вялікага беларускага патрыёта, пісьменьніка і гуманіста Васіля Быкава. 30.06.03 у газэце "The Times" быў доўгі некралёг аб ім зь біяграфіяй і апісаньнем творчасьці. Некралёг напісаны вельмі добра, дэталёва, аўтар дакладна абазнаны з жыцьцём В. Быкава, ягонымі творамі й перажываньнямі за сваю родную Бацькаўшчыну-Беларусь.

*Міхась ШВЭДЗЮК*

# А дзе-ж тыя ваяры?

## 8-га верасьня - Дзень Беларускай вайсковай славы

Гэта самы чалавечны й у той-жа час самы рамантычны партрэт будучага імпэратара - "Напалеон на Аркольскім мосьце" (мастак Антуан-Жан Гро). Партрэт-акцыя, дзе адлюстраваны подзьвіг маладога генэрала. Памятаю, як углядаючыся ў мужны твар на эрмітажнай выставе, я, тады зусім малады чалавек, усхваляваны думаў: "Вось яна - рэвалюцыя! Такія асобы абуджаюць свой народ і абнаўляюць Эўропу..." Фон карціны, як заўсёды ў жывапісе рамантызму, гучаў сымфоніяй пачуцьцяў, быў адлюстраваньнем перажываньняў героя. Здавалася, хмары зьліліся ў субоі з гарамі, і няма межаў тытанічным стыхіям. Можна сабе ўявіць, што сучасьнікі напалеонаўскіх войнаў перажывалі яшчэ мацнейшы катарсіс у дыялёгу з гэтым палатном.

У лістападзе 1796-га году рэвалюцыйная армія на шляху да Вэроны сутыкнулася зь непераадольным супраціўам фэадальнага войска. Аўстрыйцы адбівалі атаку за атакаю, у французкіх шыхтах запанаваў адчай і сум. Але раптам на перадавой зьявіўся галоўнакамандуючы, схапіў палкавы сьцяг і пабег па мосьце, заваленым трупамі. Усе кінуліся за ім, аўстрыйскія шыхты пачалі разьбягацца... Нядаўна я быў на гэтым мосьце ў італійскім мястэчку Арколі, якое знаходзіцца на самым роўным месцы Падуанскае даліны. Даўняе юнацкае перажываньне, прадыктаванае мастацкім творам, карэктавалася рэчаіснасьцю. Ніякіх гораў, ніякай бездані пад мостам. Мосьцік у 60-65 крокаў над банальна прамым арашальным каналам. Ды й сам эпізод, тая колішняя крыніца катарсісу пры дакумэнтальным вывучэньні сюжэту набылі зусім празаічныя рысы. Аказалася, усе, хто пабег побач з Банапартам, былі забітыя. А тыя, хто імпэтна бег сьледам, саштурхнулі яго разам са сьцягам у мутную ваду каналу (што й ўратавала яму жыцьцё). Захапляльны вобраз трыюмфальнага шэсьця Рэвалюцыі быў вернуты на зямлю, дзе 200 гадоў таму не было месца прыгажосьці, а адбывалася крывавае сутыкненьне паміж дзьвюма вялікімі групамі людзей.

Ці падмануў мастак Гро сваіх сучасьнікаў, ці пакінуў для будучыні карціну, што не адпавядала рэчаіснасьці? Не! Твор жывапісу - гэта не штабная рэляцыя і не сухая справаздача назіральніка. Мастак - стваральнік ідэяла, вобразу эпохі. Ягоны пэнзаль выводзіў радкі легенды нацыянальнае гісторыі, якая натхняла (і працягвае натхняць) сэрцы французаў. У гэтым ёсьць чароўная сіла сапраўднага мастацтва.

У гістарычных аналах народаў часам захоўваюцца аб'ектыўна зусім малазначныя падзеі. Аднак, яны ўзвышаюцца ў нацыянальнай самасьвядомасьці велічнымі манумэнтамі, яны - апірышчы духоўнае традыцыі. Атаку пры Самасьеры вывучаюць у польскіх вайсковых акадэміях, палякі едуць у Гішпанію, каб пакланіцца мясьцінам, дзе ўславілася іхнае войска. Кожны ведае пра геройскую бітву са школьных падручнікаў. Самасьера таленавіта ўвекавечаная ў палатне Пётры Міхалоўскага і рамане Стафана Жэромскага. Што-ж адбылося ў 1808-м годзе ў пірэнейскай цясьніне? Французы паслалі польскіх уланаў у атаку на артылерыйскія пазыцыі, і тыя выканалі задачу, пасекшы абслугу трох гішпанскіх батарэяў. Шлях на Мадрыд быў адкрыты. Уланы згубілі 18 чалавек забітымі й 75 параненымі. На фоне знакамітых бітваў тае пары Самасьера - безумоўна лякальны эпізод, якіх на працягу кожнае ваеннае кампаніі бывае дзесяткі. Лякальны эпізод стаўся элемэнтам нацыянальнага міту.



*Тадэвуш Касьцюшка. З гравюры пачатку XIX ст. Малюнак узяты з кнігі "Краіна Беларусь".*

"Трижды проклятая Орша"... Злавесным рэхам адгукалася па ўсёй Масковіі імя беларускага гораду. Маскоўцы не далічыліся. Толькі ў вялікіх бітвах яны былі бітыя пад Воршаю ажно чатыры разы. Перамога 8-га верасьня 1514-га году была самаю маштабнаю і найслаўцейшаю. Беларускае войска, наш народ на працягу 500 гадоў баранілі эўрапейскую цывілізацыю ад расейскага барбарства. Ворша займае пачэснае месца ў шэрагу вайсковых перамогаў, што вызначылі лёс Эўропы: бітвы на Каталаўнскіх палях (451-шы год, рымскія легіёны зьнішчылі гунаў), пры Пуацье (732-гі год, франкі спынілі арабскае нашэсьце), пры Лепанта (1571-шы год, флёт Каталіцкай Лігі разграміў туркаў). У разгроме крыжакоў пад Грунвальдам (1410-ты год) і выратаваньні Вены ад туркаў (1683-ці год) беларускія палкаводцы й ваяры адыгралі вырашальную ролю. Пра гэта ўсе забыліся. Паўтысячагодзьдзе, да самага канца XVIII-га стагодзьдзя беларусы засланялі сабою сваю Айчыну і цэлы кантынэнт ад нашэсьцяў маскоўскае арды, утварыўшы вышэйшага ўзроўню школу вайсковага мастацтва, жылі ў вечнай ваеннай гатоўнасьці, пралілі рэкі крыві, урэшце падарвалі свае нацыянальныя сілы - і ад гэтага не засталося практычна нічога. На пытаньне мясцовага мытніка пра мэту прыезду ў Беларусь інтэлігентны турыст адказвае: "Хачу пазнаёміцца з гісторыяй вашай краіны". А дробны монстар з чырвоным таўром "таможня" рагоча: "Так ведь тут нет никакой истории". Школа, невылечны маразматык савецкае сыстэмы, тлуміла пакаленьні нашых дзяцей біяграфіямі маскоўскіх цароў, Суворавым і партыйнымі зьездамі, ні словам не згадаўшы пра Воршу, пра нашу славу і трагедыю. На будынках нашых вакзалаў вісіць прыплюснутая ў рэльеф галава Леніна (праўда, ён праяжджаў тут на шляху ў эміграцыю і выйшаў з вагону на пару хвілінаў, каб купіць піражкі). А магілы беларускіх герояў, палі вайсковай хвалы пазарасталі быльнягом. Ім няма помнікаў, іх паглынула амнэзыя.

Суседзі актыўна пакарысталіся ненармальным станам нацыянальнае памяці, выкліканым расейскай акупацыяй і зьнішчэньнем Беларускае дзяржавы й нашае эліты. Разгортваем школьны падручнік віленскага выданьня 1993-га году на расейскай мове "История Литвы": на адпаведнай старонцы ведамая гравюра і назва "Победа литовцев под Оршей". Вось так... Працэс абуваньня ў лапці нашага народу - адна з прыярытэтных функцыяў расейскіх, польскіх, летувіскіх і ўкраінскіх гісторыкаў. Зь іхняе падачы няякасны інтэлектуальны прадукт трапляе ў замежныя энцыклапэдыі й г. д. Нам столькі гадоў расказвалі сафістычныя байкі пра нас самых ("беларусы рахманыя і неваяўнічыя", "жылі ўвесь час пад польска-літоўскімі фэадаламі", "фармаваньне беларускае нацыі пачалося з канца 18-га стагодзьдзя", "знаете, товарищи, не было таких - белоруссов"), што мы й самі паверылі ў тое, што нас няма. Шок канца 1980-х гадоў, калі пачаўся новы этап нацыянальнага Адраджэньня, быў дастаткова моцным, каб разьбіць закарэлыя стэрэатыпы. Кнігі расстраляных расейскімі акупантамі гісторыкаў і іхных сучасных вучняў Міколы Ермаловіча, Уладзімера Арлова, Генадзя Сагановіча, якія ўрэшце дайшлі да чытача, абумовілі сапраўдную інтэлектуальную рэвалюцыю. Ужо праз колькі гадоў лукашэнкаўскія інквізытары пачалі паліць беларускія падручнікі й пляжыць гістарычную традыцыю, настаўніцтва было вернута ў хамут служэньня антыбеларускім псэўдакаштоўнасьцям. Сьвятыя вобразы зноў замянілі маскоўска-акупанцкім шалупіньнем кшталту курсу "Истории Отечества" ды агульнарэспубліканскае п'янкі ў "День защитника Отечества" 23-га лютага. Але дыктатура ўжо ня мае абсалютнае моцы над духоўным жыцьцём нацыі. Ужо мы не дазволім сьцерці яшчэ раз імя тройчы ўслаўленае Воршы й усю беларускую ваенную гісторыю з нацыянальнае памяці.

Гістарычная тэма ў беларускім мастацтве знаходзіцца ў эмбрыянальным стане. Старонкі раманаў Уладзімера Караткевіча й Кастуся Тарасава, графічныя аркушы Міхаіла Басалыгі й Рыгора Сітніцы, балет "Рагнеда"- ці не замала яркіх твораў на 10-мільённую нацыю? Хаця што зробіш, калі найлепшыя дасягненьні падцэнзурнага мастацтва БССР належалі жанрам нацюрморту і краявіду? А на плошчах нашых гарадоў дагэтуль стаяць бальшавіцкія ідалы, іхнымі імёнамі дагэтуль названыя вуліцы. Баляслаў Прус сьмяяўся вуснамі сваіх эгіпецкіх герояў над элінамі, якія на матар'яле пірацкае экспэдыцыі ў Трою зрабілі ўзьнёслы эпас. Нам-жа трэба толькі абярнуцца ў мінуўшчыну і адкрыюцца скарбы, якім пазайздросьціць любы, самы клясічны народ. Пакуль што ў велічны гмах Гістарычнае Памяці беларускімі творцамі пакладзеныя нямногія цаглінкі.

Зьбіраньне камянёў нашае мінуўшчыны ёсьць нашая задача. На чужынцаў няма спадзяваньня. Расеец не дакажа праўды пра 1382-і год. Калі хан Тахтамыш падыйшоў да Масквы, адтуль уцякла ўся дзяржадміністрацыя на чале з князем Дзімітрыем і мітрапалітам Кіпрыянам. Маскоўскі люд пачаў піць, гуляць і рабаваць. У горадзе запанаваў хаос, аж покуль ліцьвіны не ўзялі справу абароны ў свае рукі: князь Асьцей (яго называюць унукам Альгерда) арганізаваў абарону на мурах і парадак на вуліцах, а рамесьнік Адам камандаваў артылерыяй. І каб не маскоўская дурата, то горад-бы не загінуў. Ня скажуць яны праўды й пра 1812-ы год, калі ў Барадзінскай бітве сталі па абодва бакі фронту па законах грамадзянскае вайны беларускія палкі. І польскі інтэлектуал не дакажа праўды. Мельхіёр Ваньковіч у сваёй знакамітай манаграфіі "Монтэ-Касіна", прысьвечанай перамозе арміі генэрала Андэрса ў Італіі ў 1944-м годзе, згадвае слова "беларус" роўна два разы на 350 старонак. Прычым адна са згадак інфармуе пра ўцёкі ў нямецкі палон (прозьвішчы, аднак, не пададзеныя). Калі-ж чытаеш сьпісы загінуўшых, што падаюцца ў апараце кнігі, то ясна разумееш, што больш за палову герояў былі беларусамі й украінцамі. На тэрыторыі мэмарыялу ў Монтэ-Касіне цяпер ёсьць алея сьцягоў. Там лунаюць дзяржаўныя сьцягі Індыі й Пакістану (у 1944-м годзе такіх дзяржаваў ня было), бо ў штурме ўдзельнічалі брытанскія каляніяльныя часткі. Беларускага сьцягу там няма.

Антуан-Жан Гро ўразіў сучасьнікаў яшчэ адным палатном - "Напалеон ў бітве пад Эйлаў". Імпэратар аб'яжджае на кані поле бітвы. Снег засыпае груды трупаў. Паранены чалавек у расейскім мундзіры няўклюдна паўзе і цягне руку да пераможцы. Нехта са сьвіты пераказаў потым гэты эпізод жывапісцу. Паранены казаў Банапарту, што хацеў-бы служыць у яго войску. Казаў, што ён ліцьвін, мабілізаваны маскоўцамі на абарону іхняй імпэрыі. Цяпер кожны экскурсавод па Луўру расказвае перад карцінаю пра "літоўца" (канешне-ж, паводле ўсіх крыніцаў - "Lithuanian"). Беларус на чужой вайне за чужыя інтарэсы, у чужым мундзіры, а ў дадатак яшчэ пад чужым імём - і так 200 гадоў пасьля згубы сваёй дзяржавы.

Вечна так ня будзе. Наш народ урэшце адбудзе сваю эўрапейскую дзяржаву і дасьць адэкватную ацэнку сваёй мінуўшчыне. Беларускае войска скіне зь сябе маскоўскую мішуру. Будуць у нас Варшанскі, Грунвальдзкі й Грозаўскі палкі, службу ў якіх моладзь будзе лічыць за гонар. Будзе Вайсковая Акадэмія імя князя Канстанціна Астрожскага, у якой на дзяржаўнай мове будуць выхоўваць абаронцаў Айчыны паводле багацейшых мілітарных традыцыяў беларускае нацыі. А Дзень Беларускае Вайсковае Славы 8-га верасьня будзе дзяржаўным, усенародным сьвятам.

***Валеры БУЙВАЛ***

# Беларусь за месяц

## "Ратушы" больш няма

Зачыніўшы віцебскі дэмакратычны цэнтар "Контур", беларускія ўлады зачынілі й гарадзенскае аб'еднаньне "Ратуша".

Ліквідацыя была ініцыяваная абласным упраўленьнем юстыцыі. Падстава - валоданьне рызографам, на які "Ратуша" ня мела ліцэнзіі. У дадатак - розная драбяза: выкарыстаньне пячаткі зь няпоўнай назвай арганізацыі. Нават судзьдзя палічыў апошнія прэтэнзіі беспадстаўнымі. Нягледзячы на гэта "Ратушы" ўжо няма. Фактычна, яе зачынілі за тое, што арганізацыя надрукавала некалькі беларускіх кніжак на тым злашчасным рызографе.

Хто наступны?

## Рыхтуюцца да выбараў

Пяцёрка-блёк палітычных партыяў - Аб'еднаная грамадзянская партыя, Беларуская партыя працы, Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада, Партыя БНФ, Партыя камуністаў Беларусі - вызначыліся са сваімі кандыдатамі на парлямэнцкія выбары 2004-га году. Адпаведнае паседжаньне прайшло 12-га жніўня. На ім усе партыі падалі меркаваныя сьпісы кандыдатаў, усяго 300 чалавек (выбарчых акругаў - 110). Цяпер давядзецца выбраць найбольш дастойных. А найбольшая канкурэнцыя, як ведама, сярод дэмакратычных кандыдатаў у абласных цэнтрах і Менску. Але і пакідаць аднаго апазыцыйнага кандыдата на акругу таксама небясьпечна, бо здыме Цэнтарвыбаркам кандыдата за якую-небудзь лухту (напрыклад, нявыплату падаткаў за ганарар у 10 даляраў) і застанецца акруга з лукашыстамі.

## Лукашэнка - незалежнік?

Вельмі цікавую заяву наконт увядзеньня ў краіне расейскага рубля зрабіў Аляксандар Лукашэнка. Адбылося гэта 27-га жніўня падчас наведваньня ім гаспадарчых прадпрыемстваў Аршанскага раёну (паблізу слаўнага Крапівенскага поля!) Віцебшчыны. "Насельніцтва ўжо разабралася. Калі раней крычалі: давай нам расейскі рубель, бо гэта выгадней, то сёньня мазгамі раскінулі й кажуць: а вы ведаеце, няхай больш кволая нашая валюта, але затое-ж свая!"

У сваёй прамове А. Лукашэнка выступіў палкім прыхільнікам беларускага сувэрэнітэту: "Калі мы ўводзім чужую валюту, ніякоб пагадненьне мы не заключалі, мы фактычна можам апынуцца ў якасьці другаснай дзяржавы, падпарадкаванай. Можа так адбыцца. Я, як кіраўнік дзяржавы, баюся гэтага і раблю ўсё, каб такога не адбылося. Бо можа стацца так, што мы пойдзем на валюту іншай дзяржавы, грошы будуць там друкавацца, і мы будзем іх адтуль атрымліваць. ...І вось каб не аказацца перад фактам, што у нас няма грошай ці іх бракуе. І што тады зноў, як у савецкія часы, на каленях поўзаць дзесьці ў Цэнтарбанку і прасіць на заробак грошай?"

Тым часам сьмеласьць Лукашэнкі й ягоныя новыя ўмовы пры ўвядзеньні расейскага рубля пачынаюць вылазіць бокам беларусам. У пятніцу, 5-га верасьня, расейскае прадпрыемства "Газпрам" абвесьціла, што з 1-га студзеня 2004-га году перастане пастаўляць газ у Беларусь па ўнутрырасейскіх коштах па 28 даляраў за тысячу кубамэтраў, а будзе па эўрапейскіх, што пацягне за сабою падвышэньне коштаў на жыльлёва-камунальныя паслугі на 30-40%. Так за двухпакаёвую кватэру, у якой прапісаныя тры чалавекі, давядзецца плаціць каля 87 тысяч рублёў у месяц (41 даляр), за трохпакаёвую з чатырма насельнікамі - ад 120 тысяч (57 даляраў). І гэта пры сярэднім заробку беларусаў у 110 даляраў (231 000 беларускіх рублёў).

Былы прэм'ер-міністар краіны Вячаслаў Кебіч вельмі жорстка ацаніў сытуацыю: "Нас чакае суровая і халодная зіма, бяз розьніцы колькі градусаў ніжэй за нуль будзе на вуліцы. Вырастуць цэны на бытавы газ і на ўсе тавары й прадукты без выключэньня. Сакрушальны ўдар будзе нанесены па нашым прымысловым прадпрыемствам".

## Мінюст папярэдзіў

Міністэрства юстыцыі Беларусі вынесла пісьмовае папярэджаньне Беларускаму гэльсінскаму камітэту. У лісьце паведамляецца, што БГК карыстаецца блянкам і пячаткай, на якіх назва арганізацыі не адпавядае статутнай. Па словах супрацоўніка Мінюсту Аляксандра Харытона, галоўная прычына папярэджаньня - у адсутнасьці двукосьсяў у назве арганізацыі, прыведзенай на блянку і на пячатцы (!).

БХК асрэчвае гэтыя закіды, заяўляючы, што пячатка была афіцыйна зарэгістравана ў Міністэрстве ўнутраных справаў у 1995-м годзе і з таго часу ніякіх прэтэнзіяў не было. Аднак, згодна з заканадаўствам, у выпадку паўторнага парушэньня, нават пры наяўнасьці памылкі, БХК можа быць ліквідаваны.

Мінюст вынес таксама пісьмовае папярэджаньне Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная грамада". Падстава - юрыдычны адрас партыі знаходзіцца ў жылым памешканьні, а мусіць, паводле заканадаўства, - у нежылым.

Лідэр партыі Мікола Статкевіч кажа, што партыйцы спрабавалі неаднаразова знайсьці нежылое памешканьне для разьмяшчэньня штаб-кватэры, аднак раённыя адміністрацыі штораз адмаўлялі. Сацыял-дэмакраты спрабуюць цяпер зарэгістраваць юрыдычны адрас у Берасьці, дзе тамтэйшая суполка якраз і мае офіс у нежылым памешканьні.

## Буша дэпартавалі

Які ўжо тыдзень беларускае тэлебачаньне аж заходзіцца ад шчасьця: Буша дэпартавалі! Насамрэч выслалі ня Джорджа (той, мусіць, і ня ведае пра такую падзею), а грамадзяніна Нямеччыны Яна Буша. Гэтага абвінавацілі ў падрыўной дзейнасьці ў умяшальніцтве ва ўнутраныя справы Беларусі.

Буш быў другою асобаю ў кіраўніцтве "Маладых сацыялістаў" - маладзёвым крыле Сацыял-дэмакратычнай партыі Нямеччыны.

Паводле зьвестак Цэнтра інфармацыі й грамадзкіх сувязяў КДБ, нямецкі грамадзянін "заклікаў удзельнікаў мерапрыемства да кансалідацыі ў мэтах супрацьдзеяньня кіраўніцтву Беларусі, зьмяненьня ўнутранай і зьнешняй палітыкі краіны". КДБ кваліфікаваў дзеяньні Я. Буша як "скіраваныя на стварэньне перадумоў да дэстабілізацыі грамадзкай згоды шляхам актывізацыі незарэгістраваных радыкальных арганізацыяў".

Нямецкі сацыял-дэмакрат адкідае абвінавачаньні. Па ягоных словах, сэмінары былі арганізаваныя Фондам імя Фрыдрыха Эбэрта ў Беларусі й адкрытыя для ўсіх, як для прадстаўнікоў апазыцыі, так і ўрадавых арганізацыяў. Праўда, на сэмінары прыходзілі "людзі ў цывільным". Цяпер яны па тэлебачаньні давodзяць: то Буш, калі камусьці дрэнна стала, хуткую дапамогу не выклікаў, то грошы прапаноўваў.

## Газэту Старыкевіча аштрафавалі

Праверка незалежнай газэты "Салідарнасьць" камітэтам дзяржкантролю адбылася адразу пасьля таго, як газэта аддала свае бачыны супрацоўнікам зачыненай "Белорусской деловой газеты". КДК капаў, капаў і накапаў. "Салідарнасьць" аштрафаваная на 4 млн. рублёў, бо ў гэтым выданьні не ўказаныя час засваньня газэты, а таксама яго памеры ў друкаваных аркушах. Галоўны рэдактар Аляксандар Старыкевіч паказваў выпуск "Советской Белоруссии", дзе таксама няма ніякіх зьвестак, аднак гэта не дапамагло. Як кажуць у Беларусі, жонка Цэзара па-за падазрэньнем.

Тым часам пасьля трохмесячнага перапынку аднавіла выхад "Белорусская деловая газета". Нагадаем, што Міністэрства інфармацыі ў канцы траўня прыпыніла ліцэнзію на тры месяцы. Тэрмін забароны скончыўся, і БДГ зноў выходзіць. Пакуль два разы на тыдзень ды друкуецца ў Смаленску.

## Аднавілі рэгістрацыю

"Беларус" ужо паведамляў пра тое, што аднавіла выданьне газэта "Дзень". А 26-га жніўня Міністэрства інфармацыі перагледзела рашэньне аб скасаваньні рэгістрацыі. Загад аб ануляваньні рэгістрацыйнага пасьведчаньня падпісаў колішні міністар інфармацыі Міхаіл Падгайны (з пачатку жніўня прызначаны новы міністар - Ул. Русакевіч).

Паводле беларускай законапрактыкі, рэгістрацыя касуецца, калі газэта не выходзіць на працягу году. Апошні нумар выйшаў 25-га ліпеня 2002-га году Таму 25-га ліпеня 2003-га году і выйшаў загад аб адмене рэгістрацыі. Аднак першы нумар аднаўленага "Дня", прысьвечаны Васілю Быкаву, выйшаў 23-га ліпеня. Супрацоўнікі газэты падалі на перагляд і прадаставілі гэты нумар.

І вось празь месяц прынята станоўчае рашэньне. Генадзь Барбарыч у інтэрв'ю Радыё Свабода зазначыў, што такая цяганіна адмоўна адбілася: "Амаль месяц газэта была ў "прастоі". Зразумела, тут і матэрыяльныя, і маральныя страты. Бо мы гэты месяц маглі-б выходзіць, а нас няма... Нас зноў забываюць. Тым больш крыўдна, што гэта здарылася з нумарам, прысьвечаным Васілю Быкаву. Мы меркавалі распаўсюдзіць газэту на саракавіны ягонай сьмерці". Галоўны рэдактар таксама спрагназаваў, што цяжкасьці яшчэ наперадзе. Наступны нумар супрацоўнікі рэдакцыі, а гэта збольшага былыя журналісты гарадзенскай "Пагоні", плянуюць выпусьціць у гэтым месяцы.

## Арыштавалі юнака

25-га жніўня ў цэнтры Менску пры спробе правесьці пікет на Кастрычніцкім пляцы затрымалі актывіста Маладога Фронту Барыса Гарэцкага. Правядзеньне пікету было прымеркаванае да чарговых угодкаў наданьня канстытуцыйнага статусу дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце (25-га жніўня 1991-га году).

Гарэцкага адвезьлі ў Цэнтральны РУУС, дзе забралі плякаты "Не - расейскаму рублю", "Моладзь - за незалежнасьць", а таксама тэкст звароту "Маладога Фронту". Непаўналетняга Б. Гарэцкага пратрымалі ў РУУС каля чатырох гадзінаў, пасьля чаго без складаньня пратаколу адпусьцілі.

## Пікет у абарону незалежнасьці

8-га верасьня незарэгістраваная Беларуская партыя свабоды зладзіла ля расейскай амбасады пікет. Акцыя была прымеркаваная да Дня беларускай вайсковай славы, а таксама 4-х угодкаў пачатку Другой чачэнскай вайны. Удзельнікі акцыі трымалі плякаты "Наш вораг - расейская імпэрабюракратыя", "Масхадаў - адзіны законны прэзыдэнт Чачэнскай Рэспублікі", патрабавалі вывесьці з тэрыторыі Чачні й Беларусі ўсе расейскія войскі.

Акцыя доўжылася няшмат часу. Сябры БПС Юрась Данілаў, Васіль Парфянкоў і старшыня партыі Сяржук Высоцкі былі затрыманыя міліцыяй і даставаленыя ў пастарунак.

## Баршчэўскі - старшыня Беларускага ПЭН-цэнтру

3-га верасьня агульны сход сяброў Беларускага ПЭН-цэнтру абраў перакладчыка, эсэіста і палітыка Лявона Баршчэўскага старшынём арганізацыі. Дагэтуль прэзыдэнтам ПЭН-цэнтру быў Васіль Быкаў.

На думку Баршчэўскага, асноўныя задачы арганізацыі на найбліжэйшы час наступныя: абарона свабоды слова ды пашырэньне ведаў пра беларускую літаратуру ў сьвеце, арганізацыя працы па перакладах пісьменьнікаў з выхадам на замежныя ўплывовыя выдавецтвы, а таксама барацьба з цэнзурою і самацэнзураю пісьменьнікаў, асабліва маладых.

## Сярэдні заробак $110

Беларусь займае трэцяе месца ў краінах Садружнасьці Незалежных Дзяржаваў па ўзроўні заробкаў. Такія зьвесткі распаўсюдзіў Міждзяржаўны статыстычны камітэт СНД.

Так, у першым паўгодзьдзі 2003-га году сярэднямесячны заробак (з улікам налічаных, аднак ня выплачаных сумаў - так званымі "бруднымі") склала ў Беларусі 231 тысячу беларускіх рублёў, ці 110 даляраў ЗША. На першым месцы ідзе Расея - 167 даляраў (5 054,5 руб.), на другім Казахстан - 149 (22 000 тэнге). За Беларусьсю ідзе Украіна - 80 даляраў (424 грыўны), Азэрбайджан - 76 (373 500 манатаў), Малдова - 57 (803 леі), Арменія - 51 (30 000 драмаў) і Таджыкістан - 13 (40 самоні). Зьвестак па Туркмэністане, Грузіі, Узбэкістане ды Кыргызіі няма.

У краінах Балтыі - Эстоніі, Латвіі, Летуве - заробкі куды большыя за беларускія.

*Уласны карэспандэнт*

## Дзень Беларускай Вайсковай Славы

Сёлета на Крапівенскім полі пад Воршаю, дзе 489 гадоў таму адбылася перамога беларускага войска пад бел-чырвона-белымі сьцягамі, прайшоў традыцыйны фэст. Гістарычнае поле стала агульнанацыянальным цэнтрам сьвяткаваньняў.

Ля памятнага крыжа прайшла грэка-каталіцкая Багаслужба. Каля паўтысячы чалавек зь Менску, Воршы, Барані, Віцебску, Магілёва, Барысава, Крупак сталі гледачамі й удзельнікамі бардаўскага спабору, рыцарскіх двубояў, паэтычных чытаньняў.

Выступілі знаныя барды Зьміцер Бартосік, Пётра Русаў, Зьміцер Сідаровіч, Ігар Мухін-Рабянок, паэт Андрэй Хадановіч. У спаборы маладых перамагла Таццяна Барысік з Магілёву, якая атрымала "Залатую карону" фэсту.

*Прэс-рэліз Партыі БНФ*

## Дж. Крол у Менску

3-га верасьня ў Менск прыляцеў новы амбасадар ЗША ў Беларусі Джордж Крол. Першае слова, якое пачулі ад амбасадара Крола журналісты, было беларускім: "Прывітаньне!"

Менскія журналісты таксама сказалі амэрыканскаму амбасадару "прывітаньне", а пасьля гэтага пачулі ад яго цалкам беларускамоўную прамову на 2 хвіліны, якую Джордж Крол рабіў без паперкі: "Шаноўнае спадарства! Вельмі дзякую за гэты цёплы прыём. Упершыню я пазнаёміўся зь Менскам і яго навакольлем у студзені 1992-га году і спаткаў тут першых знаёмых у Менску, калі я дапамагаў усталяваць першыя дыпляматычныя, афіцыйныя адносіны паміж Злучанымі Штатамі Амэрыкі й Беларусьсю".

Амбасадар Крол дадаў, што нягледзячы на тое, што ён ужо раней працаваў у Менску, ён спадзяецца, што зможа больш даведацца пра краіну. Джордж Крол скончыў Гарвардзкі й Оксфардзкі ўнівэрсытэты, быў дырэктарам аддзелу расейскіх справаў Дзярждэпартамэнту ЗША, працаваў у амбасадах ЗША ў Кіеве ды Маскве, прычым у сталіцы Расеі з 1999 да 2002 году ён быў дарадцам-пасланьнікам у палітычных пытаньнях. Новы амбасадар паводле афіцыйнай біяграфіі, валодае расейскай і польскай мовамі, але гэта не перашкодзіла яму ўпэўнена заявіць у канцы прамовы па-беларуску: "Я адчуваю сябе як дома".

*Радыё "Свабода"*

Гэты артыкул ёсьць анонсам і прэзэнтацыяй беспрэцэдэнтнай у гісторыі нашае культуры Бібліяграфіі - двутамовіка Зоры й Вітаўта Кіпеляў "Беларускі й беларусаведны друк на Захадзе". У ёй - пуцявіны эміграцыі й беларускага слова на Захадзе, вынікі зробленага за 200 гадоў і, што ня менш істотна, закладзіны новых фундамэнтальных досьледаў. Пра канцэпцыю і зьмест Бібліяграфіі трохі пазьней, а пакуль што невялічкая

### ПЕРАДГІСТОРЫЯ

У гістарычна-культурным разьвіцьці беларускай нацыі сталася так, што беларускае кнігадрукаваньне пачалося не на Бацькаўшчыне.

пісьменства з Заходняе Эўропы пашырылася на амэрыканскі кантынэнт, а з паловы таго-ж стагодзьдзя й на аўстралійскі.

Укладальнікі бібліяграфіі ставілі за мэту зарэгістраваць новы беларускі друк па-за Беларусьсю, які існуе вось ужо панад 150 гадоў і дагэтуль не сыстэматызаваўся.

### ПАПЯРЭДНІКІ

Спробы рэгістрацыі беларускага друку па-за межамі Беларусі аднак рабіліся. Гэтак у Менску ад 1925-м году Летапіс беларускага друку пачаў улічваць некаторыя беларускія выданьні па-за БССР. Але ўлік друку дыяспары спыніўся ў 1930-х гадох. Нью Ёркаўская Публічная Бібліятэка мае поўны камплект Летапісу. 153) "Бацькаўшчыны" за 31-га траўня 1953-га году паведамлялася, што выйдуць наступныя кнігі: "Зборнік Узвышэнскае прозы, Зборнік Узвышэнскае паэзіі, кніга Т. Грыба" аднак кнігі гэтыя ніколі ня былі выдрукаваныя. У дадзенай бібліяграфіі зазначаныя і іншыя недакладнасьці, якія мелі месца ў эміграцыйным друку.

Парыскі часапіс "Моладзь" у нумары 18 за 1950-ы год зрабіў добры рэгістр беларускай перыёдыкі, што выходзіла ў гадох 1945-50 (72 назвы). У пачатку 1970-х гадоў Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва пачаў сыстэматычны ўлік выданьняў дыяспары й выдаваў каталёгі публікацыяў даступных праз Інстытут.

На эміграцыі былі й іншыя бібліяг-

### УНІКАЛЬНАЯ КАЛЕКЦЫЯ

У 1999-м годзе Зора і Вітаўт Кіпелі падаравалі Нью Ёркаўскай Публічнай Бібліятэцы калекцыю беларускага й беларусаведнага друку - 171 скрынку перыёдыкі й манаграфічных выданьняў: кніжак, адозваў, памфлетаў. Калекцыя "Беларускі й беларусаведны друк на Захадзе" ахоплівае каля 90 адсоткаў усяго, што друкавалася беларускімі арганізацыямі, прыватнымі асобамі, друкарнямі на эміграцыі, пачынаючы ад 19-га стагодзьдзя. Калекцыя ўнікальная, бо адзіная ў сьвеце такой паўнаты й цэльнасьці. Відавочна, дапаўненьні да калекцыі будуць: трэба мець на ўвазе, што на эміграцыі ня было адзінага цэнтру. Але Нью Ёркаўская Публічная Бібліятэка ста-

# "Беларускі й беларусаведны друк на Захадзе"

## Два стагодзьдзі беларускага друку на эміграцыі ў Нью Ёркаўскай Публічнай біліятэцы

Др. Франьцішак Скарына пераклаў і выдрукаваў у беларускай мове Біблію ў Празе ў 1517-м годзе - годзе, які ўважаецца за пачатак беларускага кнігадрукаваньня.

Сьледам за Скарынам і іншыя ліцьвіны-беларусы друкавалі кнігі ў Заходняй Эўропе. Гэтак, ведамая палемічная кніга Марка Антонія ў перакладзе ў беларускую мову была выдрукаваная ў Франкфурце ў 1616-м годзе. Казімір Семяновіч надрукаваў сваю працу "Artis Magnae Artilleriae" ("Вялікае мастацтва артылерыі") у лацінскай мове ў 1650-м годзе ў Амстэрдаме, у французкай мове ў Парыжы ў 1651-м г., у нямецкай мове ў Франкфурце ў 1676-м г., у Лёндане ў ангельскай мове ў 1729-м годзе. Дарэчы, лацінскае, нямецкае й ангельскае выданьні кнігі К. Семяновіча ёсьць у Нью Ёркаўскай Публічнай Бібліятэцы. У Заходняй Эўропе друкаваў свае кнігі й Галіяш Капіевіч-Капіеўскі.

Згаданыя ды іншыя друкі належаць да старога беларускага кнігадруку. Але ведама, што й новы беларускі друк пачаўся не ў Беларусі, а навонках яе.

Аляксандр Рыпінскі пачаў друкаваць свае творы ў Парыжы (1840-м г.). Верш Паўлюка Багрыма "Заграй, заграй, хлопча малы" быў выдрукаваны ў Лёндане ў 1854-м годзе. "Гутарка старога дзеда" зьявілася ў Парыжы ў 1862-м годзе, а крыху пазьней, на пачатку 20-га стагодзьдзя ў Лёндане пачалі друкавацца першыя палітычныя ўлёткі ў беларускай мове. Па-за Беларусьсю пачаў друкаваць свае творы й Франьцішак Багушэвіч. Нью Ёркаўская Публічная Бібліятэка мае Багушэвічаў "Смык беларускі" (Poznan, 1894) а таксама ўлёткі, якія друкаваліся ў Лёндане. Раньнія беларускія выданьні выходзілі таксама ў Цюрыху, Жэневе, Львове, Кракаве, Пазнані ды Пецярбургу.

Гэткім чынам можна сьцьвердзіць, што й новы беларускі друк пачаўся па-за Беларусьсю і ніколі не прыпыняўся. Наадварот, ад першай чвэрці 20-га стагодзьдзя беларускае кнігадрукаваньне і часапіса-




*Вітаўт Кіпель на адным са сходаў БАЗА ў Фундацыі імя Крэчэўскага.*

Наступная спроба ўліку беларускае эмігранцкае перыёдыкі была ў Вільні. У 1949-м годзе вельмі малым накладам была выдадзеная "Библиография белорусских периодических изданий 1861-1944" ведамага бібліёграфа Владаса Абрамавічуса. У гэтай бібліяграфіі, укладзеная па месцу выданьня, улучаная і перыёдыка, друкаваная ў Бэрліне, Нью Ёрку, Парыжы, Празе й Чыкага.

У 1953-м годзе Мюнхэнскім Інстытутам па вывучэньню гісторыі й культуры СССР быў выдадзены паказьнік перыядычных выданьняў эміграцыі за гады 1919-1952. У разьдзеле "Бібліяграфія эміграцыйнай перыёдыкі на беларускай мове" было зарэгістравана 84 назовы.

Замежны друк спарадычна ўлічваўся ў беларускіх эміграцкіх газэтах ды часопісах. Газэта "Бацькаўшчына" рабіла часам на сваіх бачынах агляд друку. Дарэчы тут зазначыць і некаторыя недакладнасьці й памылкі, якія траплялі ў друк. Прыкладам, у нумары 21-22 (152-

рафіі. Прыкладам, Сьпісы выданьняў Грамадаўцаў (Народным Шляхам, № 2, жнівень 1952 г); Сьпіс беларускіх кружэлак выдадзены ЗБМА ў 1962-м г.; Кароткія бібліяграфіі беларускіх публікацыяў у Канадзе, прыгатаваныя А. Грыцуком у пачатку 1970-х гадоў. Рабіліся спробы ўлічыць рукапісныя выданьні, скаўцкі друк, студэнцкі друк і г. д.

Больш грунтоўнымі й сыстэматычнымі бібліяграфічнымі ўлікамі былі працы Міколы Панькова. У 1948-м годзе быў падрыхтаваны "Паказчык Беларускіх Выгнанскіх Друкаў травень 1945 - 1-га лістапада 1948" ("Бацькаўшчына", 12 сьнежня 1948 г.). Затым у 1952-м годзе М. Панькоў выдаў у Нью Ёрку публікацыю, якую можна назваць першай беларускай бібліяграфіяй дыяспары, - "Паказьнік беларускіх выданьняў на чужыне за 1945-1950 гг.". У 1988-м годзе гэтая бібліяграфія была пашыраная й дапоўненая, аднак з прычыны сьмерці аўтара засталася у рукапісе.

новіцца адным з цэнтраў досьледаў беларускага эміграцыйнага друку - побач з Нацыянальнаю Бібліятэкаю ў Менску, Скарынаўскаю ў Лёндане ды Кангрэсоваю ў Вашынгтоне.

Пад тэрмінам "Беларускі й беларусаведны друк на Захадзе" разумелася друкаваная прадукцыя, якая стваралася беларусамі, беларускімі арганізацыямі, цэрквамі, установамі ў беларускай і небеларускіх мовах (ангельскай, нямецкай, францускай і інш.). У паняцьце "Беларускі й беларусаведны друк на Захадзе" ўлучыліся гэтак сама друкі-кнігі, улёткі, падручнікі, што ствараліся-друкаваліся небеларускімі ўстановамі, арганізацыямі, асобамі небеларускага паходжаньня, але якія маюць значэньне для беларускай культуры - прыкладам, лісты-дэкрэты-пасланьні Папы Рымскага ці Канстантынопальскага Патрыярха, дзяржаўныя друкі Кангрэсу ЗША ці Міжнароднае Лігі Правоў Чалавека, якія тычацца Беларусі.

Улучаныя ў Бібліяграфію таксама працы аўтараў-беларусаў на тэмы небеларускія, але ў тых працах выказаныя беларускія пагляды. Зарэгістраваныя таксама і працы аўтараў-беларусаў перакладзеныя ў заходнія мовы, а гэтаксама падручнікі выдрукаваныя ў Бэрліне па замове з БССР. Такасама ўлучаныя ў Бібліяграфію перавыданьні эміграцкіх аўтараў на Бацькаўшчыне. Улічаныя й некаторыя друкі Місіі БССР у ААН ды прадстаўніцтва БССР у ЮНЭСКА ў Парыжы, якія ня былі зарэгістраваныя Летапісам Друку БССР.

Агульна кажучы, укладальнікі Бібліяграфіі, карыстаючыся дасьведчаньнем трыццацігадовае працы ў Нью Ёркаўскай Публічнай Бібліятэцы, імкнуліся зарэгістраваць як мага болей беларусаведнага друкаванага матар'ялу, які амаль ніякімі бібліяграфіямі ня улічваўся.

### Геаграфічныя і храналягічныя рамкі

Ахопленыя Бібліяграфіяй беларускія друкі Заходняй Эўропы (на захад ад

Польшчы), Паўночнай і Паўднёвай Амэрыкаў і Аўстраліі, а менавіта, Англія, Бэльгія, Гішпанія, Данія, Італія, Нарвэгія, Нямеччына, Фінляндыя, Люксэмбург, Францыя, Чэхія, Швайцарыя, Швэцыя, Югаславія, Мадзяршчына, Канада, Мэксыка, Аргентына, Бразілія, Аўстралія. Краіны былога СССР не ўлучаліся за выняткам аднае беларусаведнае кнігі, выдадзенае ў Уладзівастоку (Расея), і некалькі кніжак з Польшчы.

Зарэгістраваныя друкі ад першай паловы 19-га стагодзьдзя да 2000-га году ўлучна.

**Кніга I-ая Пэрыядычныя выданьні**

У гэтай частцы Бібліяграфіі ўлучаныя беларускамоўныя часапісы, газэты, бюлетэні, абежнікі, цыркуляры друкаваныя беларускімі арганізацыямі, выдавецтвамі, асобамі. Таксама зарэгістраваныя іншамоўныя перыядычныя друкі, якія выдаваліся-рэдагаваліся беларусамі, а гэтаксама іншамоўныя друкі, у якіх беларускія арганізацыі былі сувыдаўцамі.

Усяго зарэгістравана 414 перыядычных выданьняў, якія па зьместу можна падзяліць на колькі катэгорыяў: грамадзка-палітычныя; літаратурна-грамадзкія; рэлігійныя; арганізацыйныя (бюлетэні, абежнікі, камунікаты); часапісы студэнтаў, моладзі, скаўтаў; вэтэранскія й вайсковыя; навукова-прафэсыйныя; гумар і сатыра.

Перыёдыка разьмешчаная альфабэтычна паводля назову, са спасылкамі да арганізацыяў-выдаўцоў.

Напрыканцы I-й кнігі пададзены Слоўнік скаротаў ужываных у беларускім эміграцыйным друку.

**Кніга II-ая. Манаграфічныя друкі**

У манаграфічнай частцы Бібліяграфіі друкі разьмешчаныя храналягічна. У межах аднаго году разьмяшчэньне падаецца ў альфабэтычным парадку, спачатку кірылічным, затым лацінскім.

Улучаныя кнігі, брашуры; адбіткі разьдзелаў кнігаў (найчасьцей у асобных пераплётах); адбіткі брашурна-манаграфічнага профілю з часапісаў; дысэртацыі, манаграфіі з сэрыйных выданьняў; аднаразовыя камунікаты (улучна з прэсавымі); ўлёткі, адозвы, каталёгі, дакумэнты (пашпарты, пасьведчаньні); статуты, праграмы партыяў; канцэртныя праграмкі (калі была інфармацыя пра Беларусь); мапы; плякаты; паштоўкі - агулам каля 4500 пазыцыяў.

**Сэрыйныя выданьні.** Беларускі друк дыяспары налічвае дзесяткі сэрыяў, некаторыя нумараваныя, некаторыя без нумароў. У Бібліяграфіі сэрыйныя выданьні, пераважна кнігі, рэгістраваліся паасобна з пазначэньнем сэрыяў.

Буйнейшыя з сэрыяў гэткія: Замежная Беларусь (Прага, 1926); Народная Бібліятэка/Бібліятэчка (Бэрлін,1943-45); Бібліятэка Каліноўцаў (Бэрлін, 1944). Бібліятэка Сучаснасьці; Скаўцкая Бібліятэка; Бібліятэка Беларускіх Гаспадарнікаў на Чужыне; Беларуская Рэлігійная Бібліятэчка - сэрыі гэтыя друкаваліся ў розныя гады ад 1945-га да 1949-га ў Заходняй Нямеччыне. Бібліятэка Беларускага Вызвольнага Фронту (Аўстралія, другая палова 1950-ых гадоў); Бібліятэка Беларускай Думкі (ЗША, 1960-ыя гады); Выбраныя Дыялёгі (ЗША, 1970-1980-ыя гады) і інш. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва запачаткаваў некалькі сэрыяў, якія прадаўжаюцца: Беларускія Паэты й Пісьменьнікі на Эміграцыі (выйшла 11 кнігаў), Бібліяграфічная Сэрыя (5 кнігаў у 6 тамах), сэрыя Да Гісторыі Эміграцыі (2 кнігі).

**Календары.** Ва ўспамінах зазначаецца, што беларускія студэнты ў Празе мелі свой нацыянальны рукапісны каляндар, аднак укладальнікам гэтае Бібліяграфіі таго календара расшукаць не ўдалося. Спрабаваў укласьці беларускі нацыянальны каляндар Язэп Варонка ў Чыкага, але мэты не асягнуў, а затрымаўся на "Рускім народным календары" (1928-ы год), хоць і дадаў календару беларускія элемэнты. Беларускія календары-кнігі на эміграцыі рэгулярна пачалі выдавацца ў Аргентыне ў 1940-м годзе.

Па Другой Сусьветнай вайне календары выдавалі беларускія арганізацыі, мастацкія супалкі, газэты, прадпрыймальнікі. Найболей календароў выдавалі царкоўныя структуры: прыходы, епархіі, брацтвы, сяcтрыцтвы. Як звычай у беларускіх календарох падаваліся нацыянальныя сьвяты, рэлігійныя (праваслаўныя й каталіцкія), тэлефоны беларускіх арганізацыяў, а часам і інфармацыя пра Беларусь.

**Каталёгі.** Улічваліся каталёгі выставаў, паасобных мастакоў, кніжна-бібліятэчнае дзейнасьці, гандлёвых прадпрыемстваў і г. д. Укладальнікі імкнуліся зарэгістраваць у меру магчымасьці ўсё, што зьяўлялася, бо гэты від друкаванае прадукцыі параўнаўча новы для дыяспары.

**Дысэртацыі.** Рабіліся намаганьні ахапіць беларусаведныя дысэртацыі магістарскага (кандыдацкага) й доктарскага ўзроўняў. Да месца тут будзе зазначыць, што ў бібліяграфію траплялі й студэнцкія й вучнёўскія артыкулы-сэмінары, калі такія распаўсюджваліся сярод грамадзтва.

**Паштоўкі.** Беларускія паштоўкі на эміграцыі пачалі друкавацца ды распаўсюджвацца ад пачатку 1920-ых гадоў, найбольш коламі БНР, а пазьней добры пачын перанялі мастакі, розныя выдавецтвы, арганізацыі, найчасьцей моладзі. Паштоўкі друкаваліся вялікімі накладамі. Прыкладам, арганізацыя моладзі ў Клііўлендзе ў гадох 1950-60-ых выдала каля 50 відаў паштовак агульным накладам каля 40 тысячаў. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва паштоўку прысьвечаную 100-ым угодкам Максіма Багдановіча выдаў накладам 3 тысячы. Паштоўка Памятнага Крыжа ў Канадзе была аддрукаваная накладам 5 тысячаў; угодкавая паштоўка БНР, 1918-1988, накладам 3 тысячы. Найбольшы-ж бадай наклад беларускай паштоўкі быў у 1919-м годзе, выдадзенай БНР лікам 10 тысячаў асобнікаў. У Бібліяграфіі была спроба зарэгістраваць першыя выданьні паштовак, а перадрукі маглі быць і ня ўлічаныя.

**Паштовыя-непаштовыя маркі.** Бібліяграфія імкнулася зарэгістраваць усе беларускія паштовыя маркі выдадзеныя па-за Беларусьсю. Часам маркі гэтыя наклейваныя на канвэрты гасіліся паштовымі ведамствамі. У перыяд паштовага страйку у Ангельшчыне ў 1971-м годзе беларускія маркі нават прызнаваліся ангельскім паштовым ведамствам ("Беларус", № 167, 1971).



*Зора Кіпель на працы ў Нью Еркаўскай Публічнай Бібліятэцы.*

**Канвэрты.** Від гэтае прадукцыі таксама шырака распаўсюджаны на эміграцыі. У Бібліяграфіі ўлічаныя канвэрты, прысьвечаныя беларускім гісторычным гадавінам, выдатным беларускім падзеям, рэлігійным угодкам, юбілеям пісьменьнікаў.

**Іншыя друкі.** Улічана Бібліяграфіяй шмат рэлігійных друкаў, лісткі з малітвамі, нотныя лісткі, іконкі; наклейкі з нацыянальнымі сымбалямі; квіткі; рэклямныя ўлёткі; падстаўкі пад келіхі; плякаты; пахавальныя карткі-нэкралёгі ды іншае.

Укладальнікі - сучасьнікі-удзельнікі пары найбольшага разьвіцьця друку на эміграцыі, а гэта гады 1940-ыя да гадоў 1990х - імкнуліся зарэгістраваць усё, што ўважалі істотным як для беларускага руху, культуры, гэтак і зь бібліяграфічнага гледзішча. У значнай меры друк эміграцыі - выяўленьне нацыянальнае думкі, дзяржаўніцкіх інтарэсаў, свабоды. Эміграцыйны друк - гэта мікракосмас беларускага дзяржаўніка, незалежніка, прадпрыемцы ў вялікім рэчышчы штодзённага жыцьця вольнага чалавецтва. Беларускі друк на эміграцыі гэта адначасна і частка Беларусі, якую эміграцыя прадстаўляла і якою ганарылася праз даўгія гады ў сужыцьці зь іншымі дзяржавамі й народамі. Гэткім чынам, з мэтаю, каб не загінула тое, што рабілася і аб чым укладальнікі ведалі, паўстала думка апрацаваць гэтую Бібліяграфію.

Адначасна з гэтаю-ж мэтаю пачалося расьпісваньне-індэксаваньне некаторых перыядычных выданьняў, насамперш газэтаў "Бацькаўшчына" й "Беларус". На сёньня расьпісваньне скончанае, ідзе апрацоўка матар'ялу й неўзабаве трэба чакаць на яшчэ адну важную бібліяграфію.

**КАЛЕКЦЫЯ БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ НА ЗАХАДЗЕ**

Акрамя ўкладаньня бібліяграфіі вялося сыстэматычнае зьбіраньне ўсіх выданьняў дыяспары. Сабраная калекцыя ўключае амаль 90% усяго ўлічанага ў Бібліяграфіі. Выданьні, якіх няма ў калекцыі, пазначаныя ў Бібліяграфіі зорачкай (*) ды па-магчымасьці пададзеная крыніца, адкуль інфармацыя пра дадзеныя пазыцыі ўзятая. Калекцыя закаталягаваная пад кодамі: *QM 99-5211 і *QM 99-5212, а гэтая Бібліяграфія зьяўляецца, ў пэўнай меры, каталёгам да калекцыі, якой ужо цяпер могуць карыстацца дасьледчыкі. Чатыры копіі Бібліяграфіі, закаталягаваныя пад кодам *R-Slav. Div. 75-106, далучаныя да галоўнага каталёгу Славяна-Балцкага аддзелу Нью Ёркаўскай Публічнай Бібліятэкі. У будучыні мяркуецца мікрафільмаваньне калекцыі з мэтаю ейнага перахаваньня ды распаўсюджваньня.

Натуральна, калі дэмакратыя вернецца ў Беларусь, мікрафільмы калекцыі будуць перададзеныя ў шматлікія беларускія бібліятэкі, бо бясспрэчна: калекцыя эміграцыйнага друку - частка беларускае культуры й мусіць быць даступная на Бацькаўшчыне. А тым часам Нью Ёркаўская калекцыя Зоры й Вітаўта Кіпеляў - адзінае месца для ўсеабдымнага й поўнага вывучэньня беларускае эміграцыі.

Напрыканцы неабходна згадаць імёны тых, хто бескарысьліва дапамагаў ў зьбіраньні матар'ялаў для гэтае Бібліяграфіі: сьв. п. Мітрапаліт Мікалай, а. Александар Надсон і ягоны супрацоўнік Юрась Лаўрык, Людміла Рабок; спадары Янка Запруднік, Віталь Кажан, Алесь Міцкевіч, Антон Шукелойць, Сяргей Шупа, Браніслаў Даніловіч, сьв. п. Антон Даніловіч, Васіль Мельяновіч, Міхась Белямук, Мікола Латушкін, Міхась Наумовіч, Лявон Шыманец, Юры Туронак, Міхась Сенька, сьв. п. Нікодым Жызьнеўскі; спадарства Міхась і Валянціна Пашкевіч, Вера і Вітаўт Рамукі, Лёля й сьв. п. Янка Міхалюкі, Івонка й сьв. п. Янка Сурвіллы; спадарыня Вольга Грыцук і спадарыні Ірэна Пануцэвіч і сьв. п. Людвіка Бяленіс. Дзякуй ім усім! Але найперш - дзякуй зьбіральнікам-захавальнікам калекцыі, укладальнікам-ствральнікам Бібліяграфіі. На іх і падобным да іх трымалася й трымацца будзе беларуская культура.

*Лявон ЮРЭВІЧ*



# Гісторыя газэты "Беларус"

Першы нумар нашае газэты быў 4-х бачынкавы, вялікага фармату - такім выдавалася ў тыя часы "Бацькаўшчына". Нумар каштаваў 10 цэнтаў, абвяшчалася падпіска на год, кошт якой плянаваўся ў два даляры.

Пра што пісаў той нумар?

Цэнтральныя матар'ялы нумару - прамова прэзыдэнта БНР М. Абрамчыка на банкеце ў Чыкага "Беларускі вызвольны рух - зьява прыродная - Боскіх законаў", а таксама паведамленьне пра ягоную англамоўную кнігу "Абвінавачваю Крэмль у забойстве майго народу", дзе на падставе сакрэтных дакумэнтаў НКВД расказвалася пра забойства 13.325 беларусаў. Сярод іншых матар'ялаў - паведамленьне пра афэнзыву Задзіночаных Нацыяў у Карэі, а таксама - на падставе нямецкай газэты "Ноес Тагеблят" - пра нядаўні 4-гадзінны бой у Вільні "паміж адзьдзеламі беларускіх партызанаў "Чорнага Ката" з бальшавіцкай паліцыяй", артыкулы "Аб беларускіх вайсковых фармацыях" Вайскоўца (праўдападобна, Ф. Кушаля), "Камунізм і расейцы" ды "Натуральны каўчук у Беларусі" М. Д.

Цэлую старонку займала інфармацыя "Беларусы ў сьвеце". Расказвалася пра зьезд беларускіх студэнтаў і матурыстаў у "Беларускай Хатцы" ў Брукліне з мэтаю заснаваньня арганізацыі (увайшло каля 50 асобаў) і пра сходку навукоўцаў, пісьменьнікаў, мастакоў (каля 20 чалавек), на якой было пастаноўлена зарганізаваць Беларускую Вольную Акадэмію Навукаў і Мастацтваў. Эміграцыя павялічвалася, гуртавалася, пра тое казалі весткі адусюль. БАЗА: за апошнія тры месяцы стараньнямі арганізацыяў прыехала зь Нямеччыны каля 200 сем'яў, сярод якіх А. Каха624ноўскі, Фр. Кушэль, Н. Арсеньнева, А. Адамовіч, М. Міраноўвіч, М. Куліковіч, А. Каптуровіч. Кліўлянд: калі год назад там жыў адзін М. Белямук, дык цяпер у аддзеле БАЗА больш за 50 асобаў і чакаецца яшчэ 100. Бруклін: з ініцыятывы Задзіночаньня Беларускіх Жанчын зарганізаваная "Беларуская Хатка", "якая цяпер стала месцам сходак і забаваў ня толькі для бруклінскага аддзелу, але й суседніх аддзелаў, як Маспэт, Мангатэн". Разбудоўвалася царкоўнае жыцьцё: 26-га жніўня быў выбраны Беларускі Царкоўны Камітэт, прыехалі два сьвятары БАПЦ.

Немалая ўвага надавалася культурнаму жыцьцю эміграцыі, нацыянальнай адукацыі. Гэтак, М. Рагуля прачытаў рэфэрат, прысьвечаны 32 угодкам абвешчаньня БНР, украінец М. Кэкало выступіў з рэфератам "Салавецкія канцэнтрацыйныя лягеры й беларускія спэцперасяленцы ў Паўночным Краі", актыўна выступаў Янка Станкевіч з дакладамі "Паходжаньне й нормы гаспадарстваваe мовы Вялікага Княства Літоўскага", "Беларускія плямёны й іхныя гаспадарствы" ды іншымі. Адбыліся літаратурныя вечары з удзелам Янкі Юхнаўца, Ул. Клішэвіча, Н. Арсеньневай, Я. Шакуна, канцэрты М. Куліковіча.

Друкаваліся і весткі з замежжа: прыезд у Аўстралію Ўладыкі Сергія, высьвячэньне ў Англіі Ўладыкам Васілём сьвятара Аляксандра Крыта, аднаўленьне выхаду "Беларускіх Навінаў" у Парыжы, беларуска-украінскі канцэрт у лягеры ДП у Нямеччыне, кароткая інфармацыя з Аргентыны й Бэльгіі.


БЕЛАРУС
ЧАСАПІС БЕЛАРУСАЎ У З. Г. А. BYELARUS — BYELORUSSIA
од 1, № 1 20 верасьня, 1950 NEW YORK 29, N. Y. U. S. A.

Натуральна, першы нумар выданьня ня мог абысьціся без рэдакцыйнага звароту да чытачоў. У прыватнасьці, там пісалася наступнае: "Пачынаючы выдаваньне часопісу "Беларус", рэдакцыя хоча выказаць паважнаму чытачу тыя прычыны, што спанукнулі нас да гэтага: што сабою прадстаўляюць ініцыятары выдаваньня і якія яны сабе стаўляюць заданьні. [..] Беларуская старая эміграцыя атрымала цяпер у васобе гэтае новае эміграцыі вялікую сабе падмогу. Каб выйсьці цяпер у шырокі сьвет, каб стаць у вадзін шэраг зь іншымі ў ЗГА, засталося адно: моцна, па-брацку ўзяцца за рукі старой і новай эміграцыі ды йсьці тым сьвятым беларускім шляхам, прызначаным нам Богам, на які стаў ужо ўвесь Беларускі народ у краі - шляхам да Вольнай і Незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі.

Рукою гэтай, якая працягвае новая беларуская эміграцыя да старой і ёсьць наш часапіс - "Беларус".

Найважнейшай, аднак, прычынай, што панукнула нас да выдаваньня газэты - гэта неабходнасьць інфармаваць увесь цывілізаваны сьвет аб падзеях у Беларусі, выясьняючы праўду аб імкненьнях і ідэалах Беларускага Народу ў ягоным змаганьні з акупантам, ды змагацца з усёй той маною, хвальшам і баламуцтвам нашых ворагаў, якую яны сеюць праз сваю прэсу сярод нашых людзей у Амэрыцы".

***Рубрыку вядзе Лявон ЮРЭВІЧ***

# Слоўнічак псэўдонімаў і крыптонімаў

*Дасьледчыцкая праца з эміграцыйнымі крыніцамі абцяжараная адсутнасьцю неабходных такіх даведачных дапаможнікаў, як, напрыклад, нядаўна выдадзеная кніга М.Панькова "Хроніка беларускага жыцьця на чужыне". Але калі даты падзеяў яшчэ паддаюцца храналягізацыі, дзякуючы паведамленьням у друку, дык асобы аўтараў тых паведамленьняў (або артыкулаў, мастацкіх твораў, памфлетаў) часта застаюцца невядомымі - схаванымі за псэўдонімы.*

*На бачынах газэты робіцца першая спроба стварэньня слоўнічка псэўдонімаў і крыптонімаў эміграцыйных дзеячоў. Як усялякая спроба яна, відавочна, не пазбаўленая прагалаў, а мо й памылак. Рэдакцыя газэты будзе ўдзячная за любыя праўкі й дапаўненьні.*

***Л. Юрэвіч***

**Абрамава, Надзея** (Тэадаровіч, Н.)

**Абрамчык, Ніна** (дзявочае - Ляўковіч) (Н.Р. Раса, Ніна)

**Адамовіч, Антон** (Г.Альгердзіч, Глеб Альгердзіч, Язэп Апейка, В. Бірыч, Васіль Бірыч, Янка Віж, Галілейскі, М. Грыбель, Д. Забранскі, Даніла Забранскі, К. Каліновец, Кастусь Каліновец, Сабастыян Кернашыцкі, В. Крыцкі, Васіль Крыцкі, Альгерд Ланеўскі, Н. Недасек, Нічыпар Недасек, Н. Нізоцкі, Я. Самадум, Р. Склют, Сучаснік, С. Хізма, Максім Чытар, Ц. Юстапчык. А., А. А., Г. А., М. Г.).

**Акіншэвіч, Леў** (Вароніч)

**Белямук, Міхась** (Дубок, Міхась)

**Варонка, Язэп** (Вегаў, Юры)

**Вільчыцкі, Сяргей** (Запруднік, Янка (Ян); Я. З.; Ясень, Сяргей)

**Войтанка** (Войтэнка)-**Васілеўскі, Віктар** (В. В. В.; Васілеўскі, В. В.; Васілеўскі, Віктар; Гарыгляд, Амсьціслаў)

**Гардзіцкі, Янка** (Ролсан, Янка; ВЭР; Крапіва-Жыгучка, Я.)

**Гарошка, Леў**, айцец (Жменя, Анатоль; Каваль, Пракоп; Каваль, Пр.; Л. Г.; Пракоп, К.; Т. Малько; Л. Цень; Л. Дварэцкі)

**Гладкі, Язэп** (Варлыга, Адам Г-і Г-і, Я. Г. Я. Я. Г. Ч-і, Й.)

**Гуткоўскі, Язэп** (Ізыдар) (Да эміграцыі - Плашчынскі) (Менскі, Я., Беразьняк, Алесь)

**Гуцька, Уладзімер** (Дудзіцкі, Уладзімер Дварэцкі, Мікола)

**Гэрмановіч, Язэп**, ксёндз (Адважны, Вінцук)

**Даніловіч, Антон** (Авадзень, Н.; Ажына, З.; Аса, К., Асьцюк, В., Антось Вірок, Дольны, Язэп, Залескі, М., Здрок, А., Золак, Янка Міранэк, П., Мурашка, П., Парыцкі, Пясьняр, Антось, Цікаўны, Я., Я. З.)

**Езавітаў, Кастусь** (Зіпун, М.)

**Жамойда, Сымон** (Жук).

**Ільляшэвіч, Хведар** (Залужны, Сьвятаслаў; Дальны, М.; Іскра, Л.; Стары Скаўт)

**Казак, Рыгор** (Крушына, Рыгор; Рамановіч, Кастусь)

**Кандыбовіч, Сымон** (Будзімер, В.)

**Касмовіч, Д.** (Кузьня, Янка)

**Кахаet****Каханоўскі, Аўген** (Калубовіч, Аўген Верасень, А.)

**Качан, Аляксандр** (Акула, Кастусь Козыр, М.)

**Кіпель, Вітаўт** (Зубкоўскі, В.; В. Рысь; А. Б.)

**Крэчэўскі, Пётра** (Зьніч, П.)

**Куліковіч-Шчаглоў, Мікола** (Куліковіч, Н. Шчаглоў)

**Лешчанка, Язэп** (Кавыль, Міхась)

**Манькоў, Палікарп** (Бэз, Р.)

**Марговіч, Алесь** (Галубіцкі, Алесь)

**Мерляк** (Мацкевіч, К.), **Кастусь** (Канстанцін)

**Міцкевіч, Міхась** (Галіна, Антось)

**Навіцкі, Валянцін** (Грэскі, В.)

**Найдзюк, Язэп** (Цыпрыяновіч, Станіслаў)

**Орса, Аляксандар** (Ворса, А. Негнявіцкі, А.)

**Паланевіч, Гіпаліт** (Іпаліт) (Няміга, Гіпаліт)

**Пануцэвіч, Вацлаў** (В. П.; Волаціч, Мікола)

**Панькова, Ніна** (дзявочае Найдзюк) (Змагарка, Н.)

**Панькоў, Мікола** (Вольны, Мікола; Лістападавец; Летапісец; Ня-Кніжнік; Не-Паэта; Ул. Сакол; М. Крэнь)

**Попка** (Попко), **Ю.** (Жывіца, Юрка; Жубровіч Ю.; П. Я-р)

**Радзюк, Альфрэд** (Салавей, Алесь; Кадняк, Альфрэд)

**Ружанцоў, Аляксандар** (Смаленец, Алесь)

**Рыжы-Рыскі, Уладыслаў** (Сноп, Уладыслаў)

**Рытар, Іна** (у замустве Кахаcноўская, Іна) (Саковіч, Аляксандра)

**Рэпкаў-Смаршчок, Мацьвей** (Мітрафан) (Смаршчок, М.; Бярозка, Анатоль)

**Савёнак, Апалёнія** (дзявочае Радкевіч, Апалёнія А. С.)

**Савёнак, Лявон** (Крывічанін, Лявон; Свэн)

**Сенькоўскі, Юрка** (Залескі, А; Дубовік, Ю.)

**Сільвановіч, Мікола** (Вярба)

**Сіповіч, Часлаў** (Друя, Васіль; Друя, В., Дзедзінка, А. Дз-ка)

**Станкевіч, Адам** (Будзіловіч, В.)

**Станкевіч, Станіслаў** (Крушыніч, Ст.; Крыга, А.)

**Станкевіч, Юрка** (Рагач, П.)

**Станкевіч, Янка** (Ян)(Скарыніч, Брачыслаў)

**Стома-Сініца, Васіль** (Стома, В.)

**Сыч, Пётра** (пс)

**Сядура, Уладзімер** (Глыбінны, Уладзімер; Старажоўскі, Кастусь; Шабуневіч, В.; Караткевіч, Макар; Дняпроўскі, Вяч.; Др. Банадысь Чарнецкі)

**Сямёнаў, Зьміцер** (Алесіч, З.)

**Тумаш, Вітаўт** (В. Т.; Брага, Сымон; Максімовіч, Р.; Багровіч, Андрэй; Яшчар, Язэп)

**Урбан, Павал** (Вазёрны, Паўлюк)

**Хмара, Сяргей** (Сіняк-Хмара, С.)

**Цьвірка, Ул.** (Папліска, Архіп)

**Цэлеш, Мікола** (Часлаўскі, Анатоль; Лагода, М.; Люціч, М.; Лясун, М.)

**Чарапук, Янка** (Змагар, Янка)

**Шнэк, Сьцяпан** (Нясьцерпны, Янка)

**Шнэк, Уладзімер** (Случанскі, Уладзімер)

**Шпакоўскі, Лявон** (Случанін, Лявон)

**Шчарбакоў, Серафім** (Віцьбіч, Юрка; Крыжаніч, А.; Стукаліч, Юры; Ажгірэй, Зьмітро; Крыніцкі, Міхась; Жыгалевіч, Міхась; Савіцкі, Васіль; Салагуб, Янка; Ігнат Тур; Ювенал; Стары Жаўнер)

**Шчэцька, Васіль** (Багун, М.)

**Шырокаў, Пятро** (Лебяда, Тодар)

**Юхнавец, Янка** (Юхневіч)

**Яцэвіч, Алесь** (Змагар, Алесь)

**?** (Палонны, Янка)




# Вестi й Паведамленьнi

нью ёрскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Viestki j Paviedamlenni

Belarusan American Association, Inc.

166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае павуціньне: http://baza-belarus.org №9 (452)


# Жнівеньскі сход аддзелу БАЗА

9-га жніўня прайшоў чарговы сход нью ёрскага аддзелу БАЗА. Напачатку з паведамленьнем пра падзеі ў Беларусі за апошні месяц выступіў старшыня аддзелу сп. Віталь Зайка. Ён паведаміў прысутным пра змаганьне за Гуманітарны ліцэй у Менску, пра ўзнаўленьне захадаў аб скасаваньні беларускай нацыянальнай валюты, падрыхтоўку рэжымам рэферэндуму, зьнішчэньне беларускамоўнай адукацыі. Прамоўца таксама паінфармаваў прысутных аб сустрэчы ў Вашынгтоне прадстаўнікоў беларускай грамады Амэрыкі з новапрызначаным амбасадарам ЗША ў Беларусі сп. Джорджам Кролам.

Затым з аналізам апошніх падзеяў у Беларусі й тлумачэньнем неабходнасьці байкоту плянуемага Лукашэнкам рэферэндуму аб трэцім тэрміне прэзыдэнцтва і т. зв. канстытуцыйным акце саюзнай дзяржавы выступіў старшыня Беларускага Народнага Фронту сп. Зянон Пазьняк. Затым ён спыніўся на пытаньні палітычнай эміграцыі й адзначыў, што беларусы робяцца сусьветнай нацыяй, бо сёньня жывуць на ўсіх кантынэнтах. І тут трэба ўлічваць шэраг момантаў і дэкляраваць пастуляты, безь якіх немагчыма захаваць нацыянальную культуру, лучнасьць з сваімі каранямі. Гэта беларуская нацыянальная ідэя, карыстаньне беларускай мовай. Мова - важнейшы сродак культуры, заваёва шматлікіх пакаленьняў, скарбонка адмысловасьці й памяці роду. Таксама важным ёсьць яднаньне беларусаў, далучэньне да існуючых і стварэньне новых арганізацыяў. І арганізацыі мусяць быць як культурніцкія, так і палітычныя, і менавіта палітычныя арганізацыі - вышэйшы ўзровень супольнай дзейнасьці й праява беларускай салідарнасьці. У грамадзкай дзейнасьці неабходная салідарнасьць як асобаў, так і арганізацыяў. Важнаю зьяўляецца сувязь з Айчынай, падтрымка там культурных і асьветных праектаў, кнігавыданьня, а таксама падтрымка змаганьня супраць рэжыму Лукашэнкі.

Сакратар аддзелу БАЗА Валянціна Якімовіч ад імя прысутных і сяброў арганізацыі павіншавала Старшыню Галоўнай Управы БАЗА сп. Антона Шукелойца зь днём народзінаў, паднесла кветкі. Сп. Шукелойць узяў слова і, падзякаваўшы за віншаваньні, падзяліўся сваімі развагамі пра ролю і задачы беларускай эміграцыі ў сёньняшнім сьвеце, пра разьвіцьцё Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня і пра бягучыя падзеі ў Беларусі.

Напрыканцы сходу адбылося знаёмства з гасьцямі аддзелу, а сяброўская гамонка пры кубку кавы ды прысмаках працягвалася яшчэ не адную гадзіну.

*Віталь ЗАЙКА*

# Беларусы ў сьвеце

*Гэтыя нататкі я напісаў з разьліку на маладых беларусаў, якіх шмат цяпер сабралася за мяжою. На Бацькаўшчыне бяда. Чым беларуская моладзь можа дапамагчы Беларусі? Становішча фармальнае цяпер значна больш спрыяльнае для беларусаў у замежжы, чым некалі, бо маем сваю дзяржаву, амбасады, прадстаўніцтвы, нас прызнаюць, з намі лічацца. Нічога такога ня мела эміграцыйная моладзь у 20-30-х, ці 40-х гадах. Чыноўнікі вызьверваліся на слова "беларус". Прозьвішча нават не маглі запісаць у дакумэнтах па-беларуску. Але беларусы змагаліся за сваё.*

* * *

Пасьля 2-й Сусьветнай вайны беларусы сталі "сусьветнай нацыяй", гэта значыць, што, як і бальшыня іншых народаў, яны сталі жыць на ўсіх кантынэнтах, у шмат якіх краінах за мяжою, і, галоўнае, ***сталі падтрымліваць там сваё культурна-нацыянальнае існаваньне.***

Гэта істотная зьява, якая паўлічвае трываласьць нашага народу і нашай краіны. Яна зьвязаная зь некалькімі вырашальнымі чыньнікамі, менавіта: з наяўнасьцю нацыянальнай ідэі, нацыянальнай дзяржавы й абумоўленая ідэйна-культурным узроўнем эміграцыі.

Беларуская паўстанцкая эміграцыя ў XIX-м стагодзьдзі адбывалася так, быццам яе ўвогуле не было. Яна існавала пад парасонам польскай эміграцыі. Не сфармуляваная была яшчэ палітычна беларуская нацыянальная ідэя, не было беларускай дзяржавы; дбалі ў асноўным пра аднаўленьне ўсёй Рэчы Паспалітай, а не асобнага Вялікага Княства Літоўскага. Беларуская эміграцыя і беларускія дзеячы (пачынаючы ад Тадэвуша Касьцюшкі) сталіся набыткам для польскай эміграцыі, спажыткам для польскай палітычнай гісторыі.

Яшчэ больш бядотны лёс быў у беларускай эміграцыі 900-х, 10-х, 20-х і 30-х гадоў XX-га стагодзьдзя. Яна (прынамсі ў ЗША) зьнікла бясьсьледна. У 20-30-х гадох, напрыклад, уся 14-я вуліца ў Мангэтане гаварыла па-беларуску і была заселеная амаль выключна беларусамі, сялянамі ды работнікамі зь невысокім адукацыйным і нацыянальна-палітычным узроўнем. Яны не стварылі тут практычна нічога свайго і растварыліся ў першым-жа пакаленьні, зьніклі бясьсьледна, сталі гноем гісторыі, сыравінай для біялягічнага і генэтычнага існаваньня амэрыканцаў, спажыўным асяродзьдзем для іншых.

Прычына нікчэмнага існаваньня і этнічнага зьнікненьня - невысокі адукацыйны й сацыяльна-культурны ўзровень, але галоўнае - адсутнасьць ідэйнай нацыянальнай сьведамасьці.

Тым часам у 30-х гадах ужо існавалі культурна-палітычныя цэнтры беларускай эміграцыі ў Эўропе. Гэта, перш за ўсё, у Празе, Бэрліне, Парыжы, часткова ў Рызе, Коўне і іншых гарадох.

Моцна перамянілася становішча пасьля 2-й Сусьветнай вайны, калі за мяжою апынуліся тысячы беларускіх патрыётаў, людзей сьведамых, адукаваных і маладых. Бальшыня зь іх потым пераехала ў Амэрыку.

Пасьляваенная беларуская эміграцыя валодала тымі каштоўнасьцямі, якіх ня мелі й не цанілі ранейшыя хвалі перасяленцаў у Амэрыку.

Чатыры каштоўнасьці ёсьць найважнейшыя дзеля існаваньня нацыі за мяжою. Гэта: ***нацыянальная ідэя, беларуская мова, нацыянальная салідарнасьць і сувязь з Айчынай.*** Гэта, так-бы мовячы, неабходны стан грамадзкай сьведамасьці, які вызначае адпаведныя дзеяньні. Калі яго няма, то і дзеяньняў ніякіх ня будзе.

Пасьляваенная эміграцыя стварыла аптымальную для сябе структуру жыцьцядзейнасьці. Паўсюдна былі арганізаваныя беларускія цэрквы й аднолейная дзейнасьць аўтакефальнай царквы. Гэта давала магчымасьць шырока агарнуць беларусаў рознага ўзроўню за мяжою.

Наступная ступень - грамадзка-культурныя арганізацыі. Яны спрыялі вылучэньню і дзейнасьці найбольш актыўных беларусаў, для іншых - ажыцьцяўлялі асьветніцкую і нацыянальна кансалідуючую функцыю.

І нарэшце галоўнае - палітычныя арганізацыі, вяршыняй якіх зьяўляецца Рада БНР.

Палітычныя арганізацыі давалі ідэю і вызначалі зьмест дзейнасьці ўсёй эміграцыі, яе скіраванасьць на патрэбы нацыі, на дабро незалежнай беларускай дзяржавы. Без скіраванасьці на Айчыну існаваньне эміграцыі траціць сэнс. Ды й сама яна тады зьнікае.

У беларускай сыстэме можна заўважыць шмат структурных недахопаў (напрыклад, не арганізавалася фінансава-бізнэсовая частка, не стварылі каталіцкага касьцёла, кляса адвакатаў, школаў і г.д.). Але схоплена і сцэмэнтавана было галоўнае. Прытым прыярытэты атрымалі розум, ідэі, культура, а не кашалькі й пустыя правадзіны часу.

Ідэёвасьць - ёсьць вялікая перавага і асаблівасьць беларускага адраджэнскага палітычнага руху. Менавіта на ідэёвасьці беларускага руху трымаецца Беларусь, і менавіта дзякуючы гэтаму яна перажыве і пераможа цяжкі час.

Цяперака якраз адбываецца вельмі адказны і ў пэўнай ступені небясьпечны перыяд у жыцьці эміграцыі: зьмена хвалі й зьмена пакаленьняў. Істотным, аднак, ёсьць якраз зьмена хвалі. Толькі новая эміграцыя можа захаваць і прадоўжыць тое, што стварылі папярэднікі. Працэс перадачы заусёды няпросты, а

*Працяг на бач. 11*

## Уплаты ў нью ёрскі аддзел БАЗА:

### Складкі:

| | | | |
|---|---|---|---|
| В. Мароз | 50 | В. Картавая | 30 |
| В. Сьнежка | 40 | М. Мірутка | 30 |
| П. Грыгальчык | 30 | А. Полаз | 30 |
| У. Івановіч | 30 | С. Шчэрбацэвіч | 30 |

**Уплаты ў аддзел дасылайце скарбніку на адрас:**
*Valeri Dvornik*
*172 Millspring Rd.*
*Manhasset, N.Y. 11030*
*Чэкі выпісвайце на* ***Belarusan American Association.***
**Ахвяраваньні на БелПом дасылайце на адрас:**
*A. Mickievic*
*90-16 54th Ave*
*Elmhurst, NY 11373*
*Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя* ***A. Mickievic***

**НАСТУПНЫ СХОД НЬЮ ЁРКАЎСКАГА АДДЗЕЛУ БАЗА АДБУДЗЕЦЦА 13-га ВЕРАСЬНЯ 2003-га ГОДУ А 7-й ГАДЗІНЕ ВЕЧАРА Ў ФУНДАЦЫІ ІМЯ П. КРЭЧЭЎСКАГА ПА АДРАСУ:**
***166-34 GOTHIC DR., JAMAICA***
***Даезд цягніком падземкі F да 169th Street.***

# ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА": зьдзейсьненае і заплянаванае

Міжнароднае грамадзкае аб'еднаньне "Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" працуе ўжо больш за 10 гадоў, падтрымліваючы сталыя стасункі з суполкамі беларускай дыяспары ў 18-ці краінах сьвету. Згуртаваньне стваралася як прадстаўніцтва дыяспары на Радзіме, пакліканае захоўваць і ўмацоўваць сувязі паміж суайчыньнікамі за мяжою і Беларусьсю.

Адным з найбольш важных мерапрыемстваў "Бацькаўшчыны" былі ды застаюцца зьезды беларусаў сьвету, якія праводзяцца, паводле Статуту, адзін раз на чатыры гады. Зьезды - гэта ня толькі месца сустрэчы з суродзічамі й пэўны абмен досьведам, ня толькі справаздачна-выбарчы форум, але, перш-наперш, - эфэктыўны сродак у адстойваньні дыяспарай сваіх інтарэсаў і правоў на грамадзкім і дзяржаўным узроўні. Нездарма дзяржава ўвесь час імкнулася ўзяць зьезды пад кантроль альбо склікаць альтэрнатыўны зьезд. Зьезд дае магчымасьць паставіць перад дзяржаваю пытаньні грамадзка-палітычнага характару, сфармуляваць асноўныя патрабаваньні да далейшай працы з дыяспарай, што знаходзіць увасабленьне ў выніковых дакумэнтах зьезду.

Менавіта ў адпаведнасьці з пастановамі зьездаў Управа "Бацькаўшчыны" распрацоўвае штогадовыя пляны дзейнасьці. Нашая праца ідзе па трох асноўных накірунках: 1. праца зь дзяржаваю па выкананьні рашэньняў зьездаў; 2. папулярызацыя ведаў пра дыяспару ў Беларусі; 3. умацаваньне сувязяў, супрацоўніцтва і дапамога арганізацыям беларусаў замежжа, а таксама стварэньне новых суполак. Акрамя гэтага, ЗБС ажыцьцяўляе шэраг культурных праектаў у Беларусі з мэтаю заахвоціць да вывучэньня роднай гісторыі, мовы й культуры.

Аднымі з асноўных патрабаваньняў, якія "Бацькаўшчына" сёньня ставіць перад дзяржаваю, ёсьць прыняцьце закону аб беларускай дыяспары й праграмы дзеяньняў па падтрымцы самой дыяспары. Мы вельмі занепакоеныя адсутнасьцю дзяржаўнай падтрымкі нашых замежных суайчыньнікаў, што прыводзіць да пагражальных памераў асыміляцыі беларусаў, асабліва ў краінах былога Савецкага Саюзу. Таму адразу пасьля Трэцяга зьезду ЗБС прадставіла ў Савет Міністраў і іншыя ўстановы праграму "Беларуская супольнасьць у XXI ст.", ухваленую на зьезьдзе. Але, нажаль, да гэтага часу стасункі беларускіх уладаў з дыяспарай грунтуюцца на праграме "Беларусы ў сьвеце", якая была прынята яшчэ ў 1993-м годзе, і на сёньня маральна састарэла. Аднак прынцыпы, на якіх будавалася старая праграма, застаюцца вельмі актуальнымі. Напрыклад, прынцып "поўнага адмаўленьня ад ідэалягізацыі й палітызацыі сувязяў зь беларускай дыяспарай". Савет Міністраў плянаваў прыняць новую дзяржаўную праграму ў 2001-м годзе, потым у 2002-м, але яна так і засталася праектам. (Дарэчы, у праекце новай праграмы вышэйзгаданых прынцыпаў ужо няма.)

Няменш складанай застаецца і сытуацыя з прыняцьцем закону аб дыяспары. У 2001-м годзе юрыдычная камісія "Бацькаўшчыны" пачала працу над законапраектам, абапіраючыся на выніковыя дакументы зьездаў і на падставе прапановаў, якія паступалі ад суполак і дзеячаў беларускай дыяспары. У працы над законам аб дыяспары вельмі карысным быў вопыт суседзяў - Летувы, Польшчы, Украіны.

У 2002-м годзе ўлады нарэшце зразумелі неабходнасьць прыняцьця такога закону. "Бацькаўшчыну" запрасілі да ўдзелу ў Рабочай групе пры Цэнтры законапраектнай дзейнасьці. Дасканала аналізуючы дзяржаўны праект закону, нашая юрыдычная камісія зрабіла шэраг заўвагаў і прапановаў. Аднак усё дарэмна - абмеркаваньне закону ў Палаце прадстаўнікоў, заплянаванае на восень 2002-га году, так і не адбылося. Магчыма, закон будзе прыняты ў 2005-м годзе, калі дзяржава мяркуе правесьці Кангрэс беларусаў сьвету. Але сытуацыя ўскладняецца тым, што гэты Кангрэс заплянаваны на час чарговага, Чацьвёртага, зьезду беларусаў сьвету, які згодна са статутам праводзіць у 2005-м годзе "Бацькаўшчына".

У падобных абставінах надзвычай важным становіцца забясьпячэньне інфармацыйных патрэбаў беларускай дыяспары. З гэтаю мэтаю пры Згуртаваньні створаны Інфармацыйны цэнтар і заснаваны штомесячны бюлетэнь "Беларусы ў сьвеце". Інфармацыя для бюлетэня зьбіраецца праз сталыя карэспандэнцкія сувязі з прадстаўнікамі дыяспары ў розных краінах. Бюлетэнь сёньня мае больш за 300 пастаянных адрасатаў і распаўсюджваецца бясплатна. Сёлета вялікую падтрымку ў ажыцьцяўленьні гэтага праекту аказаў Анатоль Лук'янчык з Кліўленду.

Ня менш важкім захадам па папулярызацыі ведаў пра беларускую дыяспару ў Беларусі зьяўляецца заснаваньне кніжнай сэрыі пад назваю "Бібліятэка Бацькаўшчыны", якая будзе цалкам прысьвечаная беларусам замежжа. Першай у гэтай сэрыі выйдзе кніга пра паваенную беларускую моладзь у Францыі. Матар'ялы ўжо рыхтуюцца да друку і складзеныя яны паводле часапіса "Моладзь", што выходзіў пасьля вайны ў Парыжы. Выданьне фундуецца Міхасём Наўмовічам (Францыя). Спадзяемся, што ў гэтай сэрыі пабачаць сьвет кнігі пра беларусаў Аўстраліі, Канады, Вялікай Брытаніі ды іншых краінаў. Далучайцеся!

За апошнія колькі гадоў значна ўмацаваліся старыя і наладзіліся новыя кантакты зь беларускімі суполкамі замежжа, дзякуючы чаму стала ўдасканальваецца База дадзеных беларускай дыяспары (зьмешчаная на сайце "Бацькаўшчыны" - zbsb.org). База ўключае інфармацыю ня толькі пра суполкі, але і пра школы, музэі, бібліятэкі, помнікі - культурную спадчыну. У хуткім часе на сайце "Бацькаўшчыны" зьявіцца новы разьдзел - "Галерэя пісьменьнікаў і выбітных дзеячаў дыяспары". Напярэдзе стварэньне бібліятэкі беларускіх эміграцыйных выданьняў і выданьняў пра эміграцыю. Пачатак гэтае справы ўжо пакладзены. Але тут нам не абыйсьціся без дапамогі замежных суродзічаў. Будзем вельмі ўдзячныя за любыя дасланыя фатаздымкі, кнігі й іншыя матар'ялы.



*Група беларускіх дзяцей на адпачынку ў Чэхіі, арганізаваным ЗБС "Бацькаўшчына" пры дапамозе спн. Ірэны Каляда-Сьмірноў з Кліўленду.*

Сёлета ў супрацоўніцтве з Згуртаваньнем беларусаў Вялікай Брытаніі пабачаць сьвет "Матэрыялы Другога і Трэцяга зьездаў беларусаў сьвету". Праца па падрыхтоўцы матар'ялаў яшчэ толькі пачалася, таму запрашаем удзельнікаў зьездаў дапамагчы ў гэтым выданьні - будзем шчыра ўдзячныя ўсім за дасланыя выступы й матар'ялы (адрас нашае сядзібы: вул Рэвалюцыйная, 15, г. Менск, 220030, Беларусь).

Шмат намаганьняў прыкладаецца да культурнай і асьветнай дзейнасьці ў Беларусі. Ужо трэці год "Бацькаўшчына" праводзіць літаратурна-мастацкія конкурсы сярод школьнікаў. Тэматыка конкурсаў розная, але прынцыпова патрыятычная. Пераможцы конкурсаў узнагароджваюцца адпачынкам у Баўгарыі альбо Чэхіі й кнігаю са сваімі творамі - на памяць аб першым творчым посьпеху на ніве беларушчыны. Гэты праект ажыцьцяўляецца таксама дзякуючы дыяспары. Шмат гадоў запар яго фундуе спн. Ірэна Каляда-Сьмірноў з Кліўленду. Нядаўна наладжаны кантакты з дамамі-інтэрнатамі Беларусі, дзеці зь якіх бралі ўдзел у конкурсах. Восеньню плянуецца наладзіць для дзетак сэрыю дабрачынных канцэртаў гурта старажытнай музыкі "Стары Ольса".

Летась "Бацькаўшчына" заснавала Аргкамітэт па сьвяткаваньні 450-годзьдзя Рэфармацыі ў Беларусі. У межах дзейнасьці Аргкамітэту Згуртаваньне абвесьціла гістарычны конкурс сярод маладых навукоўцаў і наладзіла 2 гістарычныя віктарыны. Акрамя таго, мы арганізавалі й правялі Міжнародны круглы стол "Традыцыі талерантнасьці ў ВКЛ" з удзелам навукоўцаў зь Беларусі й Польшчы, гасьцей з Нарвэгіі й Галяндыі. У верасьні адбудзецца выстава дзіцячых малюнкаў. На канец кастрычніка заплянаваная Міжнародная канфэрэнцыя, прысьвечаная Рэфармацыйнаму руху ў Беларусі ў XVI-XVII стагодзьдзях.

"Бацькаўшчына" шчыльна супрацоўнічае з грамадзкімі арганізацыямі й ініцыятывамі Беларусі. Так, разам з палітычнымі партыямі й грамадзкімі аб'яднаньнямі быў праведзены Ўрачысты сход і канцэрт, прысьвечаныя Дню Волі. З удзелам грамадзкіх арганізацыяў Беларусі й Швэцыі арганізаваны Круглы стол "Дыялёг дзеля партнёрства". У межах ушанаваньня памяці славутых дзеячаў беларускай дыяспары была наладжаная вечарына да 100-годзьдзя Вінцэнта Жук-Грышкевіча, на восень рыхтуецца вечарына, прысьвечаная 100-годзьдзю Натальлі Арсеньневай.

Насуперак усім складанасьцям маем аптымізм і веру ў сваю справу.

*Алена МАКОЎСКАЯ*
*Старшыня Рады МГА*
*ЗБС "Бацькаўшчына"*

## Беларусы ў сьвеце

***Заканчэньне з бач. 9***

ўлічваючы цяперашні стан унутранай акупацыі Беларусі й напружанасьць халоднай вайны з Расеяй, гэты працэс (зьмены хваляў) вымагае ад беларусаў прытрымліваццa пэўных правілаў. Інакш можна страціць узровень, а потым і ўсё набытае папярэднікамі, страціць нацыянальныя ідэі й ператварыцца ў правінцыйнае балота з прымітыўнымі этна-культурнымі імпрэзамі (у лепшым выпадку) ці проста з "блінамі" і пяданьнем страваў.

Тут хачу зазначыць, што беларуская пасьляваенная эміграцыя была нешматлікай, у параўнаньні, скажам, з палякамі ці ўкраінцамі, колькасьць якіх у ЗША і Канадзе набліжалася да 2-х мільёнаў. Але ў палітычна-інтэлектуальнай дзейнасьці за мяжою на ўзроўні асобаў і асэнсаваньні зьяваў беларусы йшлі нароўні й нават наперадзе.

Але самае галоўнае і фэнамэнальнае (што ня можа ня ўражваць) - пасьляваенная беларуская эміграцыя стварыла беларускую нацыянальную літаратуру добрага ўзроўню, прозу і паэзію, вылучыла паэтаў, што ўвайшлі пэрламі ў карону беларускай літаратуры. Гэта пра шмат што кажа.

Савецка-бальшавіцкая акупацыя стала ноччу для беларускай нацыянальнай культуры, але ня стала абсалютным правалам гісторыі, дзякуючы таму, што нацыянальныя ідэі, публіцыстыка, друк, адэкватнае асэнсаваньне сьвету і літаратура жылі за мяжою, сталі здабыткам культуры ўсёй беларускай сусьветнай нацыі (праўда, ужо для пасьлясавецкага пакаленьня беларусаў).

Пасьляваенная эміграцыя была сьцісла нацыянальна-палітычна дэтэрмінаваная і палітычна дзейсная. Ніхто зь іх ня мог вярнуцца ў Беларусь, якая была пад расейскімі бальшавікамі.

Тым часам цяперашняя беларуская эміграцыя ёсьць у асноўным эканамічнага і прагматычнага кшталту, прытым зрусыфікаваная (дакладней, "саветызаваная"). Бальшыня гэтых людзей можа наведваць Беларусь. Палітычная эміграцыя, аднак, складае ўжо значную частку, і ад яе ў асноўным будзе залежыць узровень, зьмест і будучыня беларускага замежжа.

Новая эміграцыя паступова ўліваецца ў дзейнасьць беларускіх структураў. Некаторыя з новых эмігрантаў структурным пытаньням надаюць галоўную ўвагу, гатовыя нават праявіць рэвалюцыйны энтузыязм. Але пачынаць трэба з асноўнага, з грунту, на якім стаіць і трымаецца нацыянальнае беларускае жыцьцё за мяжою (і ня толькі за мяжою), менавіта: з ідэяў, з тых каштоўнасьцяў, якія я называю ў пачатку. Да добрага дзеяньня чалавек мусіць сасьпець.

Трэба ўсьведамляць, што асноўныя каштоўнасьці не дыскутуюцца. Гэта зьявы бясспрэчныя, грунт, на якім мы ўсе стаім. Калі-ж сумняваемся ў сваім грунце, то, лічы, што і не стаім (вісім альбо целяпаемся).

Быў-бы поўны абсурд, калі-б у нацыянальнай арганізацыі за мяжою беларусы пачалі-б дыскутаваць, напрыклад, аб патрэбе нацыянальнай ідэі (трэба - ня трэба). Нацыянальная ідэя - ***гэта ідэя стварэньня і існаваньня незалежнай нацыянальнай дзяржавы.*** Гэта ідэя, на якой у XIX-м - пачатку XX-га стагодзьдзяў стварылася новая шматнацыянальная Эўропа - Эўропа айчынаў.

Аднак я невыпадкова прыводжу тут гэты трывіяльны прыклад, бо на ахайваньні якраз нацыянальнай ідэі шмат дзе практыкуецца прапагандысцкая агентура ў Беларусі (гэта для Масквы істотна). Робіцца спэцыяльнае заблытваньне думак у неадукаванай публікі ("Национальная идея, это всех русских вон, да?" Ці: "видали мы этот нацизм, ещё в 41-м" і г. д.).

Нядаўна я прачытаў у Сеціве апытаньне людзей на вуліцах Менска. Усім задавалі пытаньне, што такое нацыянальная ідэя. Правільна не адказаў ніхто, нават не наблізіўся да зьместу (значыць ніхто ня ведаў). Вось вам і прапаганда, вось вам і культура. А на двары 21-е стагодзьдзе.

Беларускія арганізацыі за мяжою створаныя, каб лучыцца беларусам разам, каб разьвівацца, каб не занядбаць духоўна самых сябе, каб адчуваць радасьць і паўнату жыцьця ад сумоўя культурна блізкіх людзей, каб умацоўваць нацыянальныя сілы й думкі й дапамагаць Бацькаўшчыне Беларусі, якая цяпер у цяжкім стане. Вось чаму Беларуская ідэя, ідэалы 25-га Сакавіка ёсьць нашыя пуцяводныя ідэі.

Беларускую мову цяпер перасьледуюць ў падрэжымнай Беларусі, зачыняюць беларускія школы, душаць беларускі друк і мастацтва. Праз пакуты на Бацькаўшчыне беларуская мова тут, за мяжою, робіцца для нас сьвятою. Шануйма яе, аберагайма, размаўляйма на ёй усюды між сабою. Ніякая іншая мова ня можа падмяняць беларускай мовы ў беларускім асяродзьдзі. Яна наш сьцяг і абраз, у ёй наш дух, наша культура і гісторыя, наша прыўкрасная будучыня. Культурна мы існуем у нашай мове.

Традыцыі беларускай салідарнасьці выпрацавала папярэдняя эміграцыя. Тут ёсьць чаму павучыцца. Беларусы за мяжою абавязкова павінны падтрымліваць адзін аднаго, падтрымліваць усе беларускія арганізацыі й беларускі друк і, галоўнае, - дапамагаць і падтрымліваць нашу Бацькаўшчыну Беларусь. Нельга не цікавіцца, што адбываецца там, у Беларусі, нельга не перажываць за яе лёс, нельга не дапамагаць яе свабодзе і незалежнасьці. Трэба спрыяць Радзіме.

Беларуская моладзь, вядома, павінна вучыцца, мусіць атрымаць добрую адукацыю, моцна стаць на ногі. Гэта трэба, бо без адукацыі за мяжою мы будзем нічым. Але задумаемся, дзеля чаго мусіць быць вучоба, дзеля чаго "стаяньне на сваіх нагах"? Калі толькі дзеля сябе, дзеля дабрабыту, каб стаць потым гноем гісторыі для чужых, - то гэта нікчэмна.

Наша вялікая сьветлая ***Ларыса Геніюш*** у Гулагу, дзяўбучы вечную мерзлату, пад вечным канвоем пісала тады: "Як жыць, дык жыць для Беларусі, а без яе - зусім ня жыць."

З гэтага ўсяго хацеў-бы даць параду маладым беларусам, што апынуліся ў Амэрыцы ці Канадзе, і ўвогуле за мяжою - не марудзьце. Не адкладайце на заўтра думак пра Беларусь. Шукайце. Гуртуйцеся. Думаючы пра вялікае, не адмаўляйцеся рабіць малое, бо гэта шлях да вялікага, які будзе разгортвацца разам з вашым сталеньнем.

І што-б ні было, што-б ні сталася, нават страта, нават здрада, нават забор Бацькаўшчыны - не апускайма рук. Не апускайма галавы, не адмаўляймася ад барацьбы за вольную Беларусь. Бо толькі той, хто змагаецца, можа перамагчы. Змагаючыся разам, асягаем мэту.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

---

Царкоўная ўправа Амэрыканска-Беларускай Праваслаўнай Царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычмонд Гіл, Квінс, паведамляе, што 24-га жніўня 2003-га году прыступіў да абавязкаў настаяцеля парафіі й правіў першую Літургію айцец Васіль Андраюк. Раней, з 1987-га па 2001-ы год ён выконваў абавязкі настаяцеля парафіі ў царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Гайленд Парку, Нью Джэрзы, Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы.

Царкоўная ўправа ветліва запрашае беларусаў-вернікаў да сваe сьвятыні, каб разам зьвяртацца да Бога нашага ў час Сьв. Літургіяў, якія адбываюцца кожную нядзелю а 10-й гадзіне раніцы.

Перад пачаткам Літургіі можна пайсьці да споведзі, затым да прычасьця ці падаць успомныя лісткі за здароў'е жывых альбо за супакой памерлых.

Наведвайце родную сьвятыню.

***Сакратар управы Васіль ШЧЭЦЬКА***

Адрас царквы:
***104-29 Atlantic Ave***
***Richmond Hill, NY 11418***
***тэл. (718) 939-7936***

Даезд цягнікам падземкі "А" або "J" да прыпынку **104th Street.**



## "Служу российскому отечеству"

Служу российскому отечеству!.. Пра гэта ведалі альбо здагадваліся многія, і вось яно прагучала адкрыты... 1-га жніўня Уладзімер Пуцін уручаў узнагароды Расеі шэрагу асобаў. Сярод іх апынуўся і мітрапаліт Філарэт, патрыяршы эзарх Беларусі расейскай праваслаўнай царквы. Пуцін сказаў, уручаючы мітрапаліту ордэн "За заслуги перед Отечеством": "Я хочу Вам выразить слова искренней признательности за служение и Богу и российскому народу". Мяркуем, што Бог неўпаўнаважваўафіцэра спэцслужбаў да ынясеньня падзякаў ад Свайго Імя. А вось пра расейскае оцечэства, гэта Пуцін дакладна сфармуляваў. Галоўны бацюшка Філарэт ў адказ выдаў: "Служу российскому отечеству, русской православной церкви и союзному государству России-Беларуси".

Газэта "Народная Воля" далёка нерытарычна пытаецца: "Атрымліваецца, што праваслаўны ярарх знаходзіцца ў Беларусі ў камандыроўцы, мэта якой - служэньне расейскаму оцечэству?! У такім выпадку лягічна чакаць ад мітрапаліта наступнага кроку, накіраванага на зьдзяйсьненьне мары расейскіх нацыянал-вялікадзяржаўнікаў, што прагнуць вярнуць Беларусі статус Паўночна-Заходняга края? Ці не заакліка ён у адзін цудоўны дзень беларускую паству насьледваць яго прыклад і зьмяніць беларускую Айчыну на расейскую?

Калі беларускае грамадзтва ўздымае пытаньне пра "пятую калёну", пра калябарантаў, то звычайна йдзецца пра замежныя спэцслужбы й асобы, што дзейнічаюць у беларускай эканоміцы, палітыцы ў інтарэсах чужой дзяржавы. Аднак законна спытацца: а да якой катэгорыі аднесьці асобаў, што зьдзяйсьняюць адпаведную дзейнасьць у сфэры духоўнага жыцьця беларусаў? Як назваць таго, хто асабістым прыкладам кліча назад у імпэрыю?"

***Валеры БУЙВАЛ***
***паводле "Нашай Волі"***

## Ліст у рэдакцыю

Прашу выправіць памылку, якую спн. Раіса Жук-Грышкевіч зрабіла ў сваім артыкуле "Памяці Ўладыкі Мікалая", гл. "Беларус" № 487 за сёлетні жнівень. Яна паведамляе, што Перршы Ярарх БАПЦ архіяпіскап Мікалай памёр *18-га чэрвеня 2002-га году.*

А ён-жа памёр 20-га чэрвеня 2002-га году. Гэта падавалася ў "Беларусе" № 474, ліпень 2002-га году і ў "Беларускім слове" № 3, лістапад 2002-га году.

***Кастусь АКУЛА***

# Адключэньне ад разеткі

Калі была адключаная падача электраэнэргіі на ўсходнім узьбярэжжы Амэрыкі, 14-га і 15-га жніўня, я якраз быў выехаў у Нью-Ёрк, хадзіў па вуліцах Брукліна і Мангэтана.

Нікога, нажаль, не цікавілі лёсы людзей і сытуацыя ў абястоачаным Бялградзе ці ў Багдадзе, але да Амэрыкі - павышаная ўвага. На мой погляд, гэта тлумачыцца падсьведамай цікаўнасьцю ў сьвеце да ведаў пра моц амэрыканскай сыстэмы ў надзвычайных абставінах.

Моя высеова вельмі несуцяшальная. Амэрыканская жыцьцёвая сыстэма надзвычай датклівая і ў гэтым сэнсе слабая, бадай што, як ніякая іншая. Гэта тлумачыцца двума чыньнікамі: высокай тэхналягічнасьцю амэрыканскай жыцьцёвай сыстэмы, завязанай амаль выключна на электраэнэргію, і другое - абсалютовай непрыстасаванасьцю амэрыканцаў да іншых жыцьцёвых варункаў.

Ня трэба і атамнай вайны. Ніякі атамны выбух, нават два, нават дзесяць ня зьнішчаць Амэрыку. Тым часам адключэньне краіны ад электраэнэргіі на два-тры тыдні можа поўнасьцю разбурыць яе. Стане ўсё, нават аўтамабілі.

Калі разважаць бяз прыкладаў, то ўсё гэта здаецца тэарытычнымі меркаваньнямі, якія чалавек ня ўмее, ці ня рупіцца ўявіць у рэальнасьці.

15-га жніўня Мангэтан, дзе ўжо паўсюдна была падключаная электраэнэргія, выглядаў, тым ня менш, як напаўмёртвы горад. Мала аўтамабіляў, бруд на вуліцах, зачыненыя крамы й установы, няма сьветавой рэклямы. Рабункаў не было, але я адчуў напружанасьць у парадзелым натоўпе. Людзі, нібы сочачць адзін за другім, касавурацца на мой фатаапарат, поўна падазроных тыпаў, шмат паліцыі вакол аўтобуснага і чыгуначнага вакзалаў, Галоўнай пошты й установаў.

І амэрыканскае, і эўрапейскае, і ўвогуле заходняе грамадзтва ёсьць, на маю думку, сур'ёзна хворае. Дыягназ: рэгрэс духу. Такому грамадзтву цяжка перажываць грамадзкія катастрофы. Але, у адрозьненьне ад Эўропы (якая сёлета афіцыйна адмовілася ад хрысьціянства і хрысьціянскай спадчыны культуры), больш прымітыўнае грамадзтва Амэрыкі мае большы запас трываласьці.

Я гэта адчуваў даўно, але не сьпяшаўся фармуляваць. Падзеі 11-га верасьня і 14-га жніўня ў Нью-Ёрку ўмацавалі мяне ў гэтай думцы.

Трываласьць амэрыканскага грамадзтва палягае на сьляпой веры амэрыканцаў у моц, справядлівасьць і найлепшасьць Амэрыкі. Таму яны давяраюць уладзе, гатовыя падпарадкоўвацца і супрацоўнічаць зь ёю. Яны лічаць, што гэта іхная ўлада і іхная краіна. Такая мэнтальнасьць спрыяе грамадзкай салідарнасьці, ахвярнасьці й ініцыятыве. Амэрыканскае грамадзтва, не зважаючы на сваю матар'ялістычнасьць, абмежаванасьць, сацыяльную і этнічную рознасьць, здольнае, тым ня менш, хутка скансалідавацца на абарону Амэрыкі й самых сябе. На гэтым і палягае спэцыфічны амэрыканскі патрыятызм.

14-га жніўня радыё заклікала амэрыканцаў захоўваць спакой, дапамагаць паліцыі й адзін аднаму, асабліва інвалідам, людзям нямоглым і бездапаможным.

Яны гэтак і рабілі. Я праехаў і прайшоў дзясяткі перакрыжаваньняў у Брукліне. Практычна, на ўсіх стаялі дабраахвотнікі й рэгулявалі рух машынаў (бо сьветлафоры не дзейнічалі, і аварыі былі гарантаваныя). Гэтых дабраахвотнікаў ніхто не арганізоўваў. Гэта бруклінцы, простыя амэрыканцы. Кожны мог прыйсьці, стаць на перакрыжаваньне і рэгуляваць рух, дапамагаць людзям. Так і было.

Шмат дзе амэрыканцы-гандляры, уладальнікі прадуктовых крамаў, выносілі прадукты з адключаных лядовак (сьвежае мяса і інш.) і раздавалі тым, хто меў патрэбу ў ядзе, хто браў. Не спадзяваліся, што можа хутка ўключыцца ток, а дапамагалі іншым.

А ці ведаюць тым часам нашы браты-беларусы, што кожны дзень лекцыі ў амэрыканскай школе пачынаюцца з сьпяваньня амэрыканскага гімну. Вучні сьпяваюць стоячы, паклаўшы руку на сэрца. Кожны амэрыканец ведае і сьпявае амэрыканскі гімн.

Нашым гімнам "Магутны Божа" заканчваецца Богаслужба ў беларускіх цэрквах у вольным сьвеце. Але і тут далёка ня ўсе вернікі яго сьпяваюць, бо ня ўсе ведаюць. А на гэтых-жа зьнешне простых зьявах палягае моц, патрыятызм і кансалідацыя людзей.

І тут нам, беларусам, трэба-б было найбольш павучыцца ў амэрыканцаў.

*Зянон ПАЗЬНЯК*

# Кароткія ўспаміны

Калі адыходзяць навечна духоўна блізкія людзі, заўсёды пачынаеш шкадаваць, што замала гаварыў, замала спатыкаўся. Але, калі разабрацца, то як яно было, так і было. Бо ўсе мы жывём дзеля будучыні, а ня дзеля сьмерці. Таму і складваецца ўсё так, як складваецца.

Рэальна я гэта зразумеў 5-га чэрвеня, калі па тэлефоне апошні раз размаўляў з Васілём Быкавым, перад ягоным ад'ездам у шпіталь у Бараўляны. Быў ён вельмі сумны, гаварыў пра сваё расчараваньне замежжам, пра цяжкі стан, безвыходнасьць, што існуе наўкола, пра тое, што яму дрэнна, і ён ад'яджжае… у Бараўляны.

Бараўляны - гэта сымбаль, які выклікае трывогу. Усе гэта ведаюць. Інтуітыўна я адчуў, што размаўляю апошні раз, і што Быкаў, відаць, гэта таксама ведае.

Я пачаў яго фальшыва падбадзёрваць і гаварыць банальнасьці. Быкаў уздыхаў, хмыкаў і сьціпла цярпеў, пакуль я ня змоўк. Гэтага маўчаньня мне хапіла, каб вярнуцца ў рэальнасьць. І я сказаў яму тое, што думаю і кажу заўсёды: "Што-б ні было, Васіль Уладзімеравіч, і што-б хто ні рабіў, я ведаю адно - жыве Беларусь і будзе жыць. Ніхто ўжо нас не пераможа, ніякая Расея і ніякая Эўропа. Наша будучыня з намі. Гэта станецца. Верце мне. Яна ўжо ідзе, толькі ніхто ня бачыць".

Голас Быкава пацяплеў, і я зразумеў, што ён заўсьміхаўся, і нават узрадаваўся. Ён заўсёды ўсьміхаўся і радаваўся, калі я яму такое казаў, лагодна адмаўляючы мой аптымізм. "Ну, дай-жа Божа, як кажуць, дай-жа Божа!", - паўтараў з таго боку прыхільны голас. Гэта найбольш мне запомнілася з апошняй размовы і гучыць у вушох.

* * *

Я пазнаёміўся з Быкавым у траўні 1988-га году, калі спаткаўся зь ім і папрасіў напісаць прадмову да артыкулу пра Курапаты. Гэта была бомба пад Савецкі Саюз. Агітаваць Быкава не было патрэбы. Гэта выглядала-б сьмешна. Тут павінен быў стацца выбар. Таму знаёмства было стрыманым і нешматслоўным.

Быкаў прачытаў артыкул і напісаў прадмову. Гэта была моцная падтрымка, бо разьвязала рукі рэдакцыі газэты, дала падпорку.

Памятаю момант у час арганізацыі "Мартыралёгу Беларусі" й Аргкамітэту Народнага Фронту 19-га кастрычніка 1988-га году ў Чырвоным касьцёле ў Менску. Чыноўнік з ЦК КПБ, які апынуўся на ўстаноўчай канфэрэнцыі й нечакана даведаўся, што тут будзе арганізаваны Народны Фронт, літаральна кідаўся на выступоўцаў, на мікрафон і не даваў гаварыць. Гэта цягнулася доўгі час. Чыноўнік, вядома, ашалеў ад жаху і стараўся выслужыцца перад начальствам, як умеў. Але нам было зразумела - ён хоча справакаваць, каб яго вывелі пад рукі й потым



сімуляваць, што яго пабілі, выклікаць міліцыю і сарваць сход. Таму мы цярпелі, а заля аж віравала, патрабуючы яго выставіць.

Колькі я назіраў за Быкавым, ён нават у вельмі вострых дачыненьнях у час грамадзкіх сутыкненьняў, спрэчак, канфліктаў маўчаў, як камень. Пазыцыю меў, але ніколі не кідаўся ў петушыны бой.

І тут, раптам, ня вытрымаў Быкаў. Ён устаў у гневе, хутка і рашуча. Выгляд яго быў пагрозьлівы (няўжо дасьць, - мільганула ў мяне бязглуздая думка). Быкаў рэзка крутнуў да сябе мікрафон з-пад роту чэкіста і сказаў тое, што трэба, у поўнай цішыні, якая сталася пры ягоным уставаньні.

Пасьля кароткага выступу Быкава чэкіст яшчэ лез, але неяк зьвяў і неўзабаве здаўся. Сход увайшоў у сваё нармальнае рэвалюцыйнае рэчышча.

* * *

На дзень нараджэньня 19-га чэрвеня мы, фронтаўцы, часта прыходзілі да Быкава на Танкавую вуліцу, дзе ён жыў. Успамінаецца ягонае семідзесяцігодзьдзе ў сядзібе Фронту, паездка зь ім у Гомель разам з Рыгорам Барадуліным, дзе мы выступалі перад грамадзкасьцю.

Хаця ўвогуле мы вельмі шанавалі Быкава і сьцераглі яго ад цяжкасьцяў палітыкі, ад правакатараў, ад зьняваг, ад бязглуздых людзей. Мы ніколі не забываліся, што ён вялікі пісьменьнік. Мы бераглі ягоны аўтарытэт. Нам дастаткова было, што ён побач.

Потым калі я апынуўся ў эміграцыі, аказалася, што ня ўсе так думалі. У 1999-м годзе, калі калолі й секлі Фронт, усчалася кампанія за перацягваньне Быкава. Як і трэба было чакаць, ён ад Фронта адышоў. Мае сябры папракалі, чаму я нічога не тлумачу Быкаву, чаму яму нічога не кажу. Паглядзі, маўляў, якая сумніўная публіка імкнецца да яго ў субяседнікі.

Але я не адказваў. Я разумеў, што тут, як з Курапатамі, агітацыя не патрэбная. Тут - маральны выбар. Пераконваць можна звычайных людзей. Быкаў - асоба.

У сакавіку 2000-га году мы спаткаліся з Быкавым на Дзень Незалежнасьці ў Празе. Перад ад'ездам ён падышоў да мяне і ў прысутнасьці трэцяй асобы рашуча і гучна сказаў: "Зянон Станіслававіч, я хачу, каб вы ведалі й ня мелі ніякіх няпэўных думак. Я цаню ўсё, што вы рабілі й робіце цяпер. Я вас падтрымліваў і буду падтрымліваць. Я бачу, што адбываецца. Ніколі нічога супраць вас ня будзе мною сказана. Я хачу, каб вы гэта ведалі".

Я, здаецца, нічога яму не адказаў, бо чакаў, што ён павінен быў высьветліць сваю пазыцыю, і я крыху разгубіўся.

У гэты момант я адчуваў у ім жаўнера, сілу прыкрыцьця. Вось нешта робіцца, і ўпоперак гучыць суцэльны крык, напад, псыхічная атака. Азірнешся - і за плячыма наводдаль - маўклівая постаць Быкава. Ён ёсьць. Ён узіраўся. Ён заўсёды недзе быў (нібы анёл-ахоўнік у гэтым сьвеце), каб падаць руку.

І вось яго няма. І з гэтым вельмі цяжка зьмірыцца.

*Зянон ПАЗЬНЯК*



# Стагодзьдзе Натальлі Арсеньневай

***С**ёлета 20-га верасьня спаўняецца 100 гадоў найвыдатнейшай беларускай паэтцы Натальлі Арсеньневай. Напачатку творчасьці, у Вільні, яе заўважыў і падтрымаў Максім Гарэцкі. Ад таго часу Арсеньнева, як паэтка, штогод набірала болей моцы. Па сіле ўзьдзеяньня і выразнасьці мастацкіх сродкаў яна стаіць у першым шэрагу творцаў у Пантэоне дзеячаў беларускай культуры. Ейнаму таленту былі падуладныя ўсе жанры паэзіі, ад прыродаапісальнай ды інтымнай лірыкі й да патрыятычнай паэзіі, маршавых песень, гімнаў. Яна сталася выразьніцай памкненьняў і перажываньняў беларускай душы ў самыя складаныя і трагічныя часы беларускай гісторыі 20-га стагодзьдзя.*

*Натальля Арсеньнева - аўтарка словаў беларускага рэлігійнага гімну "Магутны Божа". На Віленшчыне ў міжваенны час, вайной у Менску, а з 1944-га году - на эміграцыі ў Нямеччыне, а пазьней у ЗША, паэтка працягвала ствараць адметныя па сіле й пранікнёнасьці творы. Жывучы ў Злучаных Штатах, яна таксама супрацоўнічала ў газэце "Беларус", на радыё "Свабода", у Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку, брала актыўны ўдзел у жыцьці беларускай грамады Амэрыкі.*

*Творчасьць Натальлі Арсеньневай і памяць пра паэтку яшчэ займуць належны пасад на Бацькаўшчыне.*

## Магутны Божа

**Магутны Божа! Уладар сусьветаў,**
**вялізных сонцаў і сэрц малых,**
**над Беларусяй ціхой і ветлай**
**рассып праменьне Свае хвалы.**
**Дай спор у працы будзённай, шэрай,**
**на хлеб штадзённы, на родны край.**
**Павагу, сілу і веліч веры**
**у нашу праўду, у прышласьць - дай!**
**Дай урадлівасьць жытнёвым нівам,**
**учынкам нашым пашлі ўмалот.**
**Зрабі свабоднай, зрабі шчасьлівай**
**краіну нашу і наш народ.**

# Рэдкая кніга

*Кнігі - сябры.*
*Іх кідаюць перш за ўсё..*
*І потым,*
*Галодныя,*
*Перш за ўсё зноў пачынаюць заводзіць.*
*Згарэлі бібліятэкі прадзеда,*
*Дзеда,*
*Бацькі,*
*Твая..*
*Але ты копіш*

***Ул. Караткевіч***

**Б**ольш за 500 гадоў існуе друкаваная кніга, і толькі невялічкая частка рахуецца спэцыялістамі як рэдкая. Лічыцца, што кніга набывае сваю рэдкасьць, калі попыт на яе перавышае прапанову. Натуральна, гэткае азначэньне суб'ектыўнае й дае надта шырокую прастору падставаў да залічэньня кнігі ў катэгорыю рэдкіх, што й прымушае калекцыянэраў, бібліятэкараў, антыквараў шточасна пераглядаць уласныя ацэнкі кнігаў, ад якіх раней яны самі-ж адмовіліся. На жаль, простай формулы вызначэньня рэдкасьці няма. І век кнігі мае мала агульнага зь ейнай каштоўнасьцю. Разам з тым спэцыялісты ўсталявалі пэўныя часавыя межы тае рэдкасьці. Гэта ня толькі ўсе кнігі, выдрукаваныя да 1501 году (так званыя інкунабулы), але й: ангельскія - да 1641 г., амэрыканскія - да 1801 наагул і да 1850 г. на захад ад Міссісыпы.

Што робіць канкрэтную кнігу важнаю - у бібліяфільскім значаньні? Найбольш жаданыя ў заходнім сьвеце, які хто-ніхто чамусьці лічыць вінаватым перад намі ў бездухоўнасьці, пра якую гэтак любяць казаць расейцы, - першадрукі значных літаратурных і гістарычных працаў, кнігі з новымі ілюстрацыямі, што даюць новае прачытаньне твораў або зробленыя выдомымі мастакамі, першыя друкаваныя кнігі пэўнай мясцовасьці.

Мара кожнага калекцыянэра - першавыданьне, яно мае найбольшую каштоўнасьць. Праз гэта амэрыканскія спэцыялісты, напрыклад, увялі некалькі тэрмінаў для падзелу друкаў у межах аднаго выданьня: first edition, state, issue, point. Сотні й нават тысячы даляраў каштуюць першавыданьні амэрыканскіх аўтараў, выдрукаваныя ў 20-ыя ці 60-я гады.

Не апошнюю ролю адыгрывае так званы provenance - гісторыя канкрэтнай кнігі, ейны асабісты лёс: экслібрыс, аўтарскія дарчыя надпісы (і чым радзей аўтар падпісваў свае творы - тым большая каштоўнасьць дэдыкацыі), пазнакі папярэдніх уладальнікаў асобніка, калі тое былі людзі вядомыя; адметная вокладка, пераплёт.

*Псалтыр, пакрытую няжорсткай бурай кожай,*
*Я ўзяў і срэбныя засьцёжкі адамкнуў,*
*Перачытаў радкі кірыліцы прыгожай*
*І воску з ладанам прыемны пах пачуў.*
*І бачыў я ў канцы няхітрую прыпіску,*
*Што "кнігу гэтую раб Божы, дзяк Гапон,*
*Дзеля душы спісаў у Месьце Ваўкавыску*
*У рок сем тысяч сто васьмы з пачатку дзён"*

***М. Багдановіч***

Якія кнігі звычайна не падпадаюць пад катэгорыю рэдкіх? Гэта Бібліі (зразумела, калі тое не Гутэнбэрга ці Скарыны або Астрожская Біблія), энцыкляпэдыі, зборы твораў, падручнікі, пэрыядычныя выданьні, рэпрынтныя й факсімільныя друкі.

Кніга, вядомая толькі ў некалькіх асобніках, можа быць вельмі дарагою. Але кніга малазначная ніколі ня будзе мэтаю калекцыянэра - нягледзячы на тое, у якой колькасьці асобнікаў, хоць бы і адным, яна дайшла да нас.

Адметную, часам вызначальную ролю адыгрывае стан кнігі, ейная захаванасьць. Кніга мусіць быць ня толькі з усімі бачынамі, супервокладкаю (калі такая была напачатку), але ня мець жаўціzны на старонках, своеасаблівага паху, што так вабіць кніжную моль і так палохае калекцыянэраў. Кніга ўбраная наноў, нават у самы дарагі адмысловы пераплёт, губляе сваю каштоўнасьць удвая.

Ведаючы гэта, зьбіральнікі кнігаў мусяць дбаць пра нормы захаваньня рэдкіх кнігаў. Найлепш для гэтага надаецца сухое халоднае памешканьне, а не падстрэшша ці склеп. Наўпроставыя прамяні сонца таксама надта шкодныя. Часта здараецца, што ўладальнікі кнігаў робяць цалкам адваротнае: хаваюць сваё багацьце ў скрынках, абгортваючы іх у плястык ці газэту. Так кнігу можна толькі пахаваць, зьнішчыць!

Трошкі ўбаку ад рэдкіх кнігаў стаяць архіўныя матар'ялы - ліставаньне, дзёньнікі, дакументы арганізацый і прыватных асобаў: усё гэта таксама можа мець вялікае значаньне, калі не фінансавае, дык прынамсі гістарычнае.

Вышэйпададзенае - агульныя прынцыпы рэдкай кнігі ў Амэрыцы. Як лёгка заўважыць, іх амаль немагчыма дапасаваць да беларускай кнігі. Бо ў нас любая кніга - рэдкая: XIX ст., пачатак XX ст., 20-30-я гады. Пра ранейшыя часы нават гаворкі няма! Рэдкія выданьні ваеннага часу, робяцца рэдкімі друкі эміграцыйныя. На захаванасьць увага й не зьвяртаецца: абы сама захавалася. Кніга Ластоўскага. Кніга Луцкевіча. Кніга Станкевіча. Беларуская кніга.

*Чалавек прыходзіць*
*З-за далёкіх, чужых нам меж*
*І зьдзіўляецца:*
*"Што вы за нацыя,*
*Хай вас халера,*
*Што ні дом - сотні кніг!".*
*Гэта правільна, дружа,*
*Іначай бы мы бы ня былі*
*Ні народам,*
*Ні нацыяй,*
*А дзярмом,*
*Гноем,*
*Хімерай*

***Ул. Караткевіч***

***Андрэй ЛЮБІЧ***



# Новыя кнігі ✖ Рэцэнзіі

Адразу зь дзьвюх краінаў у розных канцах сьвету прыйшлі ў рэдакцыю газэты новыя выданьні эміграцыі. І няхай зробленыя яны саматужна, вартасьць іхная немалая.

Першая кніга выдадзеная ў Лёндане і называецца "Роля беларускай дыяспары ў захаваньні й разьвіцьці беларускай культуры" (рыхтавалі Ігар Іваноў і Ігар Лабацэвіч). Кніга зьмяшчае матар'ялы аднайменнай канфэрэнцыі, што адбылася 29-30-га верасьня 2001-га году ў Беларускай бібліятэцы й музэі імя Ф. Скарыны, а гэта наступныя артыкулы: A.McMillin "Skaryna and the Diaspora", А.Грыцкевіч "Навуковыя і культурныя цэнтры беларускай дыяспары і іхняя роля ў разьвіцьці беларускай культуры", А. Пашкевіч "Канцэпцыя нацыянальнага быцьця ў прозе беларускіх эмігрантаў ХХ-га ст.", В. Шыманец "Француская школа беларусазнаўства", М. P. Survilla "Dilemmas at the Cutting Edge: the Place of Identity"; Л. Юрэвіч "Пераклады эміграцыі: ідэалёгія культуры", V. Rich "Belarusian Poetry in Emigration 1945-1990"; М. Міцкевіч "Якуб Колас на Захадзе", А. Баршчэўскі "Расейская савецкая рэчаіснасьць ва ўспамінах айца Язэпа Гэрмановіча "Кітай, Сібір, Масква", Н. Баршчэўская "Роля беларускай дыяспары ў захаваньні й разьвіцьці беларускай мовы", М. Языкевіч "Беларускі камітэт дапамогі ахвярам радыяцыі й Беларуская бібліятэка імя Ф.Скарыны ў Лёндане - ля вытокаў дабрачыннай дзейнасьці ў Беларусі".

Шкада, што ў зборнік не ўвайшлі (відаць, па незалежных ад укладальнікаў прычынах) усе даклады, але ўяўленьне аб іх дае праграма канфэрэнцыі, зьмешчаная напачатку 140 старонкавага выданьня. Напрыканцы кнігі - зьвесткі пра аўтараў.



Тры іншыя кнігі дасланыя з Аўстраліі: "Беларуская эміграцыя ў Паўднёвай Аўстраліі", "Янка Ролсан і яго творы", "Казка пра Чорта Лысага, Антыхрыста Вусатага й Вар'ята Чубатага". Усе тры ўклаў і выдрукаваў Віктар Кавалеўскі, старшыня Беларускага Аб'еднаньня ў Паўднёвай Аўстраліі й адзін з заснавальнікаў (разам з айцом М.Бурносам) аўстралійскага Беларускага Гістарычнага Згуртаваньня. В. Кавалеўскі ёсьць самым актыўным з маладой эміграцыі на тым кантыненьце: у 2000-м годзе ён выдрукаваў кнігу пра Беларусаў у Адэляйдзе, прысьвечаную памяці Я. Ролсана (разам з мастацкімі творамі апошняга), а неўзабаве абяцае скончыць працу над абагульняльнаю кнігаю пра беларусаў Аўстраліі "А хто там ідзе?".

Асабліва трэба зьвярнуць увагу на першую з пералічаных кнігаў - пра беларусаў у Паўднёвай Аўстраліі. Нягледзячы на асобныя пралікі (у першую чаргу - адсутнасьць спасылак, удакумэнтаванасьці, бібліяграфіі), пэўную фрагмэнтарнасьць аповяду, выданьне ёсьць вартасным дадаткам да таго нешматлікага, што напісана пра беларускую эміграцыю ў тую краіну: "Першыя крокі" У. Клуніцкага, "Пад бел-чырвона-белым" Алеся Алехніка, Вольгі Качан у аўстралійскай энцыкляпэдыі ды ўспаміны Аляксандра Калодкі "Беларусы ў Аўстраліі". Кніга насычаная малавядомымі фактамі (асабліва з царкоўнай гісторыі), рэдкімі здымкамі й будзе карысная кожнаму дасьледчыку нашае эміграцыі.

Хацелася-б, каб падобных кнігаў большала, каб у кожнай краіне, дзе жылі й па-сёньня жывуць беларусы, зьяўляліся свае гісторыкі, біёграфы, архівісты.

*А. Л.*

# Хто такі Эссон - прыяцель Алеся Гаруна?

У газэце "Наша Ніва" (Менск, 8 жніўня) у рубрыцы "Культура" выдрукаваны кароткі агляд-рэцэнзія Анатоля Сідарэвіча на нядаўна выдадзеную кнігу Алеся Гаруна "Выбраныя творы" (Менск, Беларускі Кнігазбор, 2003).

У новай кнізе, як выглядае (нажаль, самой кнігі я яшчэ не займеў), ёсьць раздзел успамінаў, сярод якіх зьмешчаныя мэмуары Эссона, каторы, як правідлова заўважае А. Сідарэвіч, беларускаму грамадзтву няведамы. Цьверджаньне слушнае. І гэтая зацемка мае на мэце тое цьверджаньне крыху "расьсьвятліць".

Эссон - псэўдонім А. Зураева, каўказкага дасьледніка і дзеяча, асеціна па нацыянальнасьці, аўтара колькіх працаў па этнаграфіі й гісторыі Асеціі. Я зь ім пазнаёміўся ў 1960-х гадох у Нью Ёркаўскай Публічнай Бібліятэцы, дзе я працаваў, а Эссон быў чытачом. Калі сп. Эссон даведаўся, што я - беларус, ён сказаў, што некалі, у маладосьці, быў добра знаёмы й нават сябраваў зь іншым беларусам - Алесям Прушынскім.

У мяне ў той час амаль заняло дух: я пазнаёміўся з чалавекам, які ведаў нашага вялікага паэта-пачынальніка, палітычнага дзеяча Алеся Гаруна! Гэтак паўсталі, выплылі з памяці Эссона згаданыя ўспаміны.

Некалькі словаў пра Эссона. Ён зь Сібіры, пасьля 1917-га году трапіў у ЗША, скончыў інжэнэрны факультэт унівэрсітэту. Доўгі час працаваў па фаху ды паралельна дасьледваў розныя аспэкты гісторыі Асеціі. У гадох 70-х Эссон адведаў Каўказ, быў у роднай Асеціі. Прынцыпова ніколі не зьміруўся з савецкім ладам. Эссон-Зураеў быў прыхільнікам нацыянальных дзяржаваў, а не імпэрыі.

Я з Эссонам сябраваў даўгавата. Ён мне хацеў аддаць сваю бібліятэку, у якой былі кнігі Карскага, Карамзіна ды іншыя цікавыя выданьні. Нажаль, я ўсё адкладаў свой візыт да яго, пакуль Эссон не адышоў у лепшы сьвет у 70-х. Адну кнігу ягонага аўтарства я перадаў у Нацыянальную Бібліятэку Беларусі.

Вось хто быў Эссон - прыяцель Алеся Гаруна, аўтар успамінаў пра яго.

*Вітаўт КІПЕЛЬ*

# Фэномэн беларускага пісьменства

4-га верасьня ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я. Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі адбылася прэзэнтацыя каталёга "Рукапісы беларускіх татараў канца XVII - пачатку XX ст. з калекцыі ЦНБ НАН Беларусі", была разгорнутая выстава кнігаў з фонду аддзелу рэдкіх кнігаў і рукапісаў. Мерапрыемствы прымеркаваныя да IX Міжнароднай навукова-практычнай канфэрэнцыі "Цюркскія народы ў гісторыі Беларусі", арганізатарамі якое выступілі ЦНБ НАН Беларусі, Цэнтар нацыянальных культур Міністэрства культуры РБ, Беларускае грамадзкае аб'еднаньне татараў "Зікр уль-Кітаб", Мусульманскае рэлігійнае аб'еднаньне ў Рэспубліцы Беларусь.

Рукапісныя кнігі зьявіліся ў Беларусі ў X-м стагодзьдзі й пражылі доўгі век: існавалі да пачатку кнігадрукаваньня і пазьней, паралельна зь ім. Нездарма кнігапісаньне ва ўсіх канфэсіях лічылася пачэснаю справаю, а рукапісныя рэлігійныя кнігі - сьвяшчэннымі.

Поліэтнічнасьць і поліканфэсыйнасьць жыхароў беларускіх зямель у XIV-XVIII стагодзьдзях абумовілі выкарыстаньне для кнігапісаньня ня толькі розных моваў, але і розных альфабэтаў, прычым для беларускай мовы выкарыстоўваліся тры алфабэты: кірылічны, лацінскі й арабскі. Арабскімі літарамі пісалі свае рукапісныя кнігі беларускія татары-мусульмане.

У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я. Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі захоўваецца калекцыя рукапісаў беларускіх татараў канца XVII - пачатку XX ст. Супрацоўнікамі аддзелу рэдкіх кнігаў і рукапісаў бібліятэкі падрыхтавана навуковае апісаньне кнігаў, складзены каталёг калекцыі. 4-га верасьня ўдзельнікі IX Міжнароднай навукова-практычнай канфэрэнцыі, госьці й чытачы бібліятэкі азнаёміліся з гэтымі рарытэтамі.

Старыя рукапісныя кнігі ажывілі некаторыя старонкі нашай гісторыі. У другой палове XIII ст. Вялікае Княства Літоўскае пачало хутка пашырацца, для далучэньня новых зямель і іх абароны патрэбнае было войска. Татары былі выдатнымі ваярамі. Вітаўт (1350-1430), найвыдатнейшы й прадбачлівы з усіх уладароў Вялікага Княства, асабліва спрыяў іх пасяленьню ў краіне. Ён дазволіў ім ня толькі браць жонак зь мясцовага насельніцтва, але і выхоўваць дзяцей, народжаных у такіх шлюбах, у веры бацькі.

Сваяцкія, блізкія сацыяльныя і эканамічныя сувязі зь мясцовым насельніцтвам садзейнічалі таму, што татары, выхадцы з розных плямёнаў, хутка страцілі сваю родную мову. Да сярэдзіны XVI стагодзьдзя бальшыня беларускіх татараў ня ведалі цюркскай мовы й паслугоўваліся беларускаю і польскаю. Рэлігія (іслам) заставалася адзінаю сфэраю, у якой захавалася адметнасьць тутэйшых татараў.

Каштоўнаю часткаю культурнай спадчыны беларускіх татараў стала літаратура на беларускай мове арабскім пісьмом. Творы такога роду ўяўляюць сабою рукапісы, напісаныя арабскаю вязьзю, якая чытаецца ў звычайнай для арабскага пісьма манэры справа налева.

Літаратура татараў мае рэлігійны характар і цесна зьвязаная з мусульманскай вераю. Сярод твораў беларускіх татараў параўнальна мала арыгінальных працаў, у асноўным гэта пераклады з розных усходніх крыніцаў. Гэтыя творы можна падзяліць на некалькі групаў.

У першую чаргу гэта Кур'аны, сьвяшчэнныя кнігі мусульманаў. Для Кур'анаў, створаных у Беларусі, уласьціва наяўнасьць невялікай прадмовы на мясцовай гаворцы, што знаёміць з падрыхтоўкаю да чытаньня Сьвятога пісаньня. На выставе прадстаўленыя 4 рукапісныя Кур'аны XVII - XIX стагодзьдзяў.

Для беларускіх татараў асаблівае значэньне мелі тэфсіры. Хоць арабскае слова "тэфсір" звычайна азначае "камэнтар", беларускія тэфсіры па сутнасьці зьяўляюцца перакладамі Кур'ана зь некаторымі элемэнтамі камэнтара. Яны ўключаюць Кур'ан, напісаны на арабскай мове, у якім пад кожным гарызантальным радком арабскага тэксту наўскос запісаны пераклад на польскую і беларускую мовы. У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі захоўваецца тэфсір 1686-га году, які зьмяшчае старэйшую копію (з тых, што захаваліся і ведамыя) перакладу Кур'ана на польскую мову. "Малодшы" тэфсір з кнігазбору бібліятэкі быў напісаны ў XIX стагодзьдзі.

Большасьць рукапісаў беларускіх татараў, акрамя тэкстаў на беларускай, польскай мовах і на іх "сумесі", як і трэба было чакаць, зьмяшчаюць тэксты на арабскай і цюркскіх мовах. У складзе рукапісаў сьпісы з усходніх тэкстаў, пераклады з усходніх крыніцаў на беларускую і польскую мовы, арыгінальныя тэксты на мясцовай гаворцы. Такім чынам, гэтыя шматмоўныя літаратурныя помнікі цікавыя і для арыенталістаў, і для славістаў. У адрозьненьне ад кірылічных помнікаў, мова беларускіх тэкстаў, напісаных арабскім пісьмом, вельмі цесна зьвязаная з гутарковаю моваю. Для больш дакладнай перадачы мясцовага вымаўленьня ў арабскі алфабэт былі дададзеныя некалькі літараў, у тым ліку літары для абазначэньня гукаў "дз" і "ц", уласьцівых беларускаму вымаўленьню ("дзеканьне" і "цеканьне").

Знаёмства з рукапісамі беларускіх татараў канца XVII - пачатку XX стагодзьдзяў раскрые цікавыя старонкі гісторыі, дапоўніць веды пра беларускую культуру. Сапраўды можна ганарыцца нашым пісьменствам, у тым ліку і арабскаграфічным.

*Алена ЦІТАВЕЦ*
*"Зьвязда"*

# Павал ГУЗ

## 15.08.24 - 17.08.03

**З Аўстраліі дайшла сумная вестка аб тым, што адыйшоў з жыцьця ведамы беларускі дзеяч у Аўстраліі сп. Павал Гуз. Выказваем шчырыя спачуваньні родным і блізкім памерлага.**

**Рэдакцыя**



*Рэдакцыя атрымала гэты матар'ял яшчэ да таго, як прыйшла сумная вестка з Аўстраліі. Друкуем яго цяпер ў якасьці некралёга.*

### Да 79-гадзьдзя Паўла Гуза

Упершыню сустрэў я спадара Гуза ў 1997-м годзе, калі прыехаў у Банантан парк, каб узяць удзел у арганізаванай беларускім актывам 12-й Сустрэчы Беларусаў Аўстраліі.

Ходзячы паміж выстаўленымі пад цяністымі дрэвамі сталамі спакойнай, нават па-медзьвядзінаму разлапістай паходкаю, Паўла Гуз не прыцягваў да сябе хуткай увагі. Але праз нейкі час, пачуўшы ягоную размову з іншым нашым беларусам, я далучыўся да іх і моўчкі пачаў слухаць. Талькі тады я зразумеў, што гэта зусім немалы чалавек у беларускім руху ў Аўстраліі, а адзін зь ведамых дзеячоў беларускага грамадзкага і палітычнага эміграцыйнага жыцьця.

Ужо працуючы сакратаром Беларускага Аб'еднаньня ў Паўднёвай Аўстраліі я даведаўся больш пра сп. Гуза, што ён быў адным з заснавальнікаў беларускай грамады ў Мэльбурне, што працуе сёньня аднachасна ў некалькіх беларускіх арганізацыях і шмат іншага. Яшчэ больш даведаўся толькі пасьля арганізацыі Беларускага Гістарычнага Згуртаваньня ў Аўстраліі, калі пачаў працаваць над архівамі, вялікую частку якіх перадаў мне Старшыня Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі сп. А. Груша.

Нарадзіўся Паўлюк Гуз 15-га жніўня 1924-га году недалёка ад станцыі Бабічы ў вёсцы Дуброва, што знаходзіцца ў маляўнічым лясным масіве тады ў Рэчыцкім раёне Гомельскай вобласьці. Бацькі-сяляне, маючы надзел зямлі жылі й працавалі на гаспадарцы. Паўлюку было толькі тры гады, калі памёр бацька. Дзяцінства Паўлюка не было завідным. Сяляне тых мясьцін, Мазыра, Рэчыцы, Калінкавічаў, Хойнікаў, Горвалі, Васілевічаў, жылі вельмі цяжка.

У школьным узросьце належаў да драматычнага гуртка, якім кіравала настаўніца фізікі, браў удзел у пастаноўках п'есаў, якія адбываліся ў вясковым клюбе. Пасьля школы спрабаваў паступіць у Гомельскае чыгуначнае вучылішча, але безпасьпяхова, што прымусіла Паўлюка прыняць кіраваньне спажывецкаю крамаю за два кілямэтры ад роднае вёскі. Праз пару месяцаў пачалася вайна.

Вясковыя хлопцы атрымалі стрэльбы й пачалі ахоўваць вёску Дуброва. "Сьмех гэта, - гаворыць сп. Гуз, - але тады бачылі сябе героямі." Калі фронт падыйшоў да Мазыра, усіх хлопцаў кінулі на эвакуацыю так званай дзяржаўнай маёмасьці, які было, як кот наплакаў. Але Паўлюку пашанцавала вярнуцца дахаты аж з-пад Курску, ужо глыбокаю восеньню, калі маці пасьпела адплакаць і адсьпяваць свайго сына. У вёсцы пачалося звыклае сялянскае жыцьцё. Але ненадоўга. Пачалі дакучаць савецкія банды. У выніку іх дзейнасьці немцы спалілі суседнія вёскі Крынкі й Дзямяхі, якія былі побач чыгункі. Тыя, каму пашанцавала ўцячы, шукалі да каго прытуліцца. Паўлюк з маці й двума братамі падаўся да маміная цёткі ў Васілевічы ды пачаў шукаць працу.

Разам з братам Мікалаем паступіў служыць у самаахову тарфазаводу і цагельні, за што ім давалі паёк - 8 кг мукі на месяц. Але фронт ужо каціўся назад, і гэта прымусіла Паўлюка зьбірацца ў дарогу, каб ня трапіць пад бальшавіцкую расправу. У Берасьцейскім лягеры стала зразумела, што трэба ўцякаць і ад гэтага акупанта. Людзі далі прытулак недалёка ад станцыі ў разьбітай хаце. На працягу дзесяці месяцаў прыйшлося думаць толькі аб кавалку хлеба, працаваў краўцом, разьбіраў цэглу, жабраваў па вёсках. Потым ізноў падаўся ў дарогу. Пабываў у лягеры Дахаў, зь якога накіравалі ў Аўстрыю на рамонт чыгункі, якая ішла ў Італію. Але тут вайне прыйшоў канец.

Акупацыйная зона папала пад амэрыканскі кантроль, але хутка перайшла французам, што было лепш, бо яны былі больш антысавецкія. Пачалася лоўля людзей Рэпатрыяцыйнай місіяй. Людзі пачалі зьбірацца ў групы, каб было лягчэй абараніць сябе і ня трапіць ізноў пад апеку "бацькі народаў". Многія беларусы, у тым ліку і Паўлюк, падаюцца да польскіх лягероў, дзе запісаліся палякамі й такім чынам уратавалі сабе жыцьцё. Выпадкова трапіла яму ў рукі беларуская газэта, якая дала адрасы беларускіх асяродкаў на эміграцыі. У той час існаваў Беларускі Нацыянальны Камітэт у Мюнхэне, дзе людзі былі сьведамыя ў нацыянальным адраджэньні - такія патрыёты як Васіль Тамашчык і Віталь Кажан. Сп. Тамашчык, пакладзены пазьней у япіскапы, ачоліў Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву.

Празь нейкі час Паўлюк навязаў лучнасьць зь беларускаю рэлігійнай місіяй у Францыі, на чале якой стаяў а. Леў Гарошка. Пачаў атрымліваць беларускую літаратуру, рэлігійныя малітоўнікі. Пачаў пісаць артыкулы ў часапісы, навязаў лучнасьць з сп. Сяргеям Хмарай (Сіняк) з Канады, распаўсюджваў газэты "Беларускі эмігрант", "Бацькаўшчыну", "Беларускае Слова", "Беларускую Трыбуну" ды іншыя. Разам з братам Алесем (айцец Аляксандар Грыцук) закладае Беларускую групу ў лягеры Куфштайн у французкай зоне і робіць радыёперадачы па-беларуску, што выклікала вялікае незадавальненьне сярод расейцаў і палякаў.

Паўлюк зьвязаўся зь "Беларускімі скаўтамі на чужыне" (Нямеччына) пад кіраўніцтвам Вацлава Пануцэвіча, які меў добрыя адносіны з галавою усіх скаўтаў палкоўнікам Манэ. Хутка Паўлюк атрымаў пасьведчаньне, што арганізацыя зарэгістраваная як "Скаўт Інтэрнэйшнал" і дастаў будынак пад сядзібу, дзякуючы старэйшаму скаўту Алесю Грыцуку.

Паўлюк закладае "Зьвяз імя Івана Луцкевіча" і робіць дзьве дружыны хлапцоў і адную дзяўчат. Пачынаецца культурнае жыцьцё - на вечарыных у лягеры гучаць беларускія песьні. У хуткім часе сам палкоўнік Манэ наведаў лягер, і увесь зьвяз атрымаў ад яго падзяку, а Алесь Грыцук (брат Паўла ад другога бацькі) быў накіраваны ў Баварыю на міжнародныя спаборніцтвы скаўтаў. Палкоўнік Манэ выдаў адзнакі на рукавы ды іншыя рэгаліі скаўтаў.

Хутка пачынаецца эміграцыя. Выяжджае і Паўлюк Гуз з маці й братам. У Нэапальскім порце (Італія) знаёміцца зь беларусам па прозьвішчу Міхась Зуй. Праз доўгія гутаркі на параплаве даведваецца аб дзейнасьці Беларускай Незалежніцкай Партыі.

Па прыездзе ў Аўстралію Паўлюк трапляе ў лягер Банегіла (1949 г.) і ўступае ў рады БНП. Бярэ актыўны ўдзел у грамадзкай працы, навязвае кантакт зь іншымі беларусамі ў Аўстраліі (М. Скабей, В. Клуніцкі ды іншыя). 25-га Сакавіка 1950-га году ўпершыню сьвяткуецца Дзень Незалежнасьці Беларусі ў Аўстраліі, на якім Паўлюк чытае вершы, напісаныя ў Аўстраліі.

Наладжваюцца вечары, на якіх чытаюцца беларускія газэты. Ствараецца культурны клюб, а праз пару месяцаў аддзел Беларускага Аб'еднаньня на штат Вікторыя, дзе Паўлюка выбіраюць сакратарам. Разам з Алесем Грыцуком закладае "Скаўтаў Вікторыі" й футбольную дружыну "Зубар", а таксама нядзельную школку для беларускіх дзетак.

Пачынае выходзіць часапіс "Новае жыцьцё", дзе друкарна-тэхнічную працу выконвае Паўлюк разам з братам. Часапіс гэты рассылаецца па ўсяму сьвету. Сьвяткуюцца нацыянальныя сьвяты: 25-га Сакавіка, Слуцкае паўстаньне, 2-гі Ўсебеларускі Кангрэс. Паўлюк бярэ актыўны ўдзел у закладаньні беларускага праваслаўнага прыходу Сьв. Еўфрасіньні Полацкай пры Ўкраінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве. Алесь Грыцук становіцца настаяцелям. У Беларускім Аб'еднаньні ён выконвае абавязкі культурна-асьветнага рэфэрэнта.

Зь першага дня закладаньня Беларускага Каапэратыву сп. Гуз становіцца ягоным сакратаром. Пасьля аб'еднаньня беларускіх грамадзкіх сілаў у Вікторыі ствараецца Беларускі Цэнтральны Камітэт (БЦК), дзе Паўлюк на доўгія нады займае пасаду сакратара-скарбніка. ¨н сьпявае ў беларускім хоры пры БЦК, які праіснаваў на працягу 30 гадоў.

У апошнія гады сп. Гуз зьяўляецца Старшынём БЦК і сакратаром Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі.

Актыўная Грамадзкая дзейнасьць Паўлюка Гуза выяўляецца ў напісаньні рэфэратаў да розных імпрэзаў.

Закладаецца Аўстралійска-Чарнобыльскі Фонд для дапамогу дзеткам, пацярпеўшым ад аварыі, у якім Паўлюк робіць вялікую працу па зборы ахвяраваньняў і адпраўцы дапамогі ў Гомельскі абласны шпіталь, а таксама арганізоўвае прыезд дзетак у Аўстралію на аздараўленьне. У хаце Паўлюка жыла дзяўчынка Воля Марозава зь Менску, якая і цяпер піша яму лісты як да роднага чалавека. Па прыездзе спартоўцаў зь Беларусі, Паўлюк бярэ актыўны ўдзел у арганізацыі іх прыёму. Паўлюк таксама прымаў гасьцей-фільмоўцаў зь Беларусі ды сустракаў сп. Аўгена Лецку, які прыяжджаў у Аўстралію, і зь якім і цяпер трымае сувязь.

Сп. Гуз быў дэлегатам на Пленумах БЦР ад 14-га да 19, спрыяў абраньню Міхася Зуя Прэзыдэнтам БЦР. За актыўную грамадзкую працу атрымаў ўзнагароды: нададзены ранг капітана Прэзыдэнтам Р. Астроўскім, нададзены ранг маёра Прэзыдэнтам Н. Мядзейкам, узнагароджаны трыма медалямі: Беларускія Вэтэраны на Чужыне, Беларуская Краёвая Абарона і Жыве Беларусь!

Ня гледзячы на хваробу ён працягвае працаваць і сёньня. Не памылюся, калі скажу, што беларусы Аўстраліі жадаюць доўгіх гадоў жыцьця і працягу нястомнай працы на ніве беларускага нацыянальнага і грамадзкага адраджэньня ў Аўстраліі нашаму ведамаму лідэру спадару Паўлу Гузу!

**Віктар КАВАЛЕЎСКІ**

**Беларускае Гістарычнае Згуртаваньне ў Аўстраліі**

---

**Быкаў Васіль. Доўгая дарога дадому. Кніга ўспамінаў.**

ГА БТ "Кніга", Менск, 2002 544 с., ISBN-985-6605-13-X Наклад: 2000 ас.

Гэтая кніга - успаміны народнага пісьменьніка Беларусі Васіля Быкава пра асабіста перажытае амаль за 70 гадоў ягонага багатага падзеямі жыцьця. Быкаў прапануе чытычу досьвед культурнага дзеяча, знакамітага пісьменьніка, выказвае думкі адносна будучага разьвіцьця краіны.

***Кароткае прадмоўе***

*Перш за ўсё хачу папярэдзіць чытача, што гэтая кніга - твор вельмі інтымны, суб'ектыўны, аднабаковы, якім, зрэшты, ці не заўжды зьяўляецца мемуар, успамін, сьведчаньне. Думаецца, у тым ягоная сіла, але аднachасна і слабасьць, падстава для прэтэнзіяў і нязгоды. У сваё апраўданьне магу толькі сказаць, што не меў жаднага намеру каго-небудзь абразіць, што-колечы скрывіць ці знарок падаць у неадэкватным сьвятле.*

*Бальшыня названых у творы пярсонаў прыведзеная пад іхнімі сапраўднымі імёнамі. Хіба ў асобных выпадках імёны зьмененыя - зь меркаваньняў павагі да годнасьці тых пярсонаў ды і ў інтарэсах аўтара. Наколькі тое магчыма, аўтар імкнуўся прытрымлівацца храналёгіі, хаця тое не заўжды ўдалося. Асабліва там, дзе падзеі адбываліся паралельна або выпадалі з пэўнага лягічнага ланцугу.*

*Выбачаюся перад тымі, каго не ўпамянуў тут, пра каго напісаў мала ці тым болей ня так, як яны заслугоўваюць. Перад тымі, каго засмуціў названымі фактамі або празьмернымі азначэньнямі. Знарок нікога не хацеў пакрыўдзіць.*

**Каб замовіць гэтую кнігу дашліце $15 на адрас рэдакцыі "Беларуса". Кніга будзе вам дасланая поштаю.**

# УЛАДЗІМЕРУ АРЛОВУ - 50 ГАДОЎ!



У 1986 годзе ў Менску ў сэрыі "Першая кніга празаіка" выйшла кніга пад вельмі свойскім назовам, - "Дзень добры, мая Шапшына"; яна выбухнула падобна вершам Алеся Разанава, сталася сапраўдным адкрыцьцём для чытачоў - паказала, як і пра што можна пісаць па-беларуску.

Ці насамрэч зборнік пачынаўся "Маналёгам", ці гэта сёньня так памятаецца?

"Ачхі! Вы ўжо даруйце, шаноўныя, трэба начхацца ў запас, бо дзе гэта вы бачылі сьвятога Пётру, які чхае на музэйных наведнікаў?

Ну так, цяпер я экспанат. Але, калі хтосьці з вас скажа: "Sic transit gloria mundi", я запярэчу. Хіба рацыя нарекаць мне на свой лёс? Было нас шасьцёра братоў, а застаўся на сьвеце адно я. А ці не паважны век маё без малога чатырыста гадоў, пражытыя ў гэтых барочных мурах, што памятаюць ядры маскоўскага цара, швэдзкага караля і французкага імпэратара ды град нялічаных асколкаў ад нямецкіх бомбаў?

Часам я шкадую, што ў мяне драўлянае сэрца, а часам радуюся з тае самае прычыны, бо іначай яно не вытрывала б усяго, што мне выпала пабачыць. Але, відаць, яно не зусім драўлянае, бо такімі вось чыстымі вясновымі ранкамі, калі маладыя сонечныя промні запальваюць пазалоту капітэляў і гзымсаў, а на белыя сьцены шматкалёрна кладуцца цёплыя водсьветы вітражоў, я адчуваю, як маё сэрца прачынаецца і дзесьці там, у душы, нараджаецца ціхая музыка... ..

У мяне грубаваты, але мужны й нават паглядны твар з шырока пасаджанымі вачыма. Вятрыска жыцьцёвых нягодаў ваяўніча ўскудлаціў мае густыя валасы і бараду. На дужых рамёнах - апанча. Ці трэба дадаваць, што, як і належыць сьвятому, трымаюся я з годнасьцю. Тым больш у маіх кастрыбаватых руках звыклага да працы чалавека не абы-што, а ключ ад райскае брамы".

Так увайшоў у нашае жыцьцё Ўладзімер Арлоў. Мінула зусім троху чалавечага часу, і Ўладзя Арлоў, як ласкава клічуць яго знаёмыя, - бясспрэчны клясык беларускае літаратуры, аўтар больш як дзвацаці кнігаў прозы, паэзіі, эсэ, гістарычных нарысаў, ляўрэат літаратурнае прэміі Францішка Багушэвіча Беларускага ПЭН-Цэнтру. Здаецца, за штосьці не ўзяўся ён, посьпех - наканаваны, кожная кніга - бэстсэлер. Але ня толькі.

Некалі яму прадказвалі ролю новага Ўладзімера Караткевіча. Ён абраў свой уласны шлях, стаўся ня меншым, але іншым. І значнасьць Арлова зрабілася асабліва відавочнаю па сьмерці Васіля Быкава.

Сёньня ў руках Ул. Арлова ключы ад нашае гісторыі, ад, спадзямся, будучых посьпехаў нашае літаратуры, і - чаго тут хаваць! - ад нашых сэрцаў.

Як кажа др. В. Кіпель, "Пакаленьні будуць расьці з прозьвішчам Арлова".

Рэдакцыя газэты "Беларус", Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, уся беларуская дыяспара віншуе Ўладзімера Арлова з угодкамі, зычыць трываласьці й здароўя ды чакае на новыя кнігі!

**Маркі БНР** былі выданыя ў Нямеччыне ў 1949-50 г. г. Мастацкае афармленьне зрабіў Уладзімер Шыманец.

Цяпер гэтыя маркі можна выкарыстаць дзеля папулярызацыі БНР, як наклейкі на лісты або даць на памятку.



Кошт марак: $1 асобнік, 10 мяшаных марак за $5, 30 за $10.

Набыць іх можна даслаўшы чэк на адрас газэты "Беларус" або скарбніку Рады БНР на адрас:

*V. Kazan*
*29 Pennington-Lawr. Rd*
*Pennington, NJ 08534*

Можна таксама набыць юбілейныя паштоўкі, выдадзеныя да 80-годзьдзя Рады БНР па такім самым кошце.

## БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА

Распаўсюджвае новы том з сэрыі "Беларускія паэты й пісьменьнікі"

**АНТОН АДАМОВІЧ. ТВОРЫ**

Зьмест 800 бачынкавага збору твораў уключае найбольш важныя для асэнсаваньня творчасьці самога навукоўца й ўсяе гісторыі нашае літаратуры наступныя працы Ант. Адамовіча: "Паўлюк Трус", "Супраціў саветызацыі ў беларускай літаратуры", "Так пяяў Салавей", а таксама дзьве Адамовічавы аўтабіяграфіі, 1935 г. і 1941 г. Том дапаўняюць біяграфічна-крытычны нарыс рэдактара і ўкладальніка кнігі Лявона Юрэвіча, а таксама бібліяграфія твораў Ант. Адамовіча ды іменны паказьнік. У кнізе зьмешчаны ўнікальныя здымкі з збораў БІНІМу й прыватных архіваў. Большасьць зь іх друкуецца ўпершыню.

Кошт кнігі $ 30. Замовы дасылаць на адрас Інстытуту:

*Belarusan Institute of Arts and Sciiences*
*1797 Buttonwood Ave*
*Toms River, NJ 08755*
*Attn: Vitaut Kipel*

# Вячаслаў ІЛЬЧУК



22-га ліпеня пасьля цяжкай хваробы адыйшоў у вечнасьць скончыўшы 82 гады жыцьця блажэнны Вячаслаў Ільчук. Айцец Ільчук, з паходжаньня ўкраінец, родам з Валыні, быў жанаты на беларусцы з Клецка Ірэне Пілецкай. Ен вельмі прыхільна ставіўся да нас, беларусаў, і са сваёю жонкаю Ірэнаю ўспамагалі нас у нашай рэлігійнай і грамадзкай працы.

Паховіны айца Вячаслава Ільчука адбыліся 25-га ліпеня ў украінскай праваслаўнай царкве Сьв. Уладзімера ў Чыкага. Цела нябожчыка спачыло на праваслаўных могілках у Элмвуд. Вечная яму памяць, а жонцы Ірэне, дачкам з унукамі жадаем вытрываласьці ў гэтай, так вялікай, сямейнай страце. Ягоныя добрыя ўчынкі будуць вечна жыць у нашых сэрцах.

*Вера РАМУК*

У Менску 29-га жніўня 2003-га году бяз часу адыйшоў у іншы сьвет беларус, бацька і муж, вялікі жыцьцялюб і шматпакутны чалавек Міхась МАЛАХОЎСКІ.

Сябры БАЗА выказваюць спачуваньні ягонаму сыну Руслану Малахоўскаму і жонцы Валянціне ў іх вялікай страце і журбе.

Сьветлая яму памяць і няхай будзе яму пухам родная зямля-маці, якую ён так бясконца любіў.

Копія маёй маткі Паўліны адыйшла ў вечнасьць. Мая сястра, роджаная ў 1936-м годзе, Элізавета Бурэнь зь Верацеяў, памерла 31-га ліпеня сёлета. Пахаваная з удзелам праваслаўнага сьвятара з Порплішчаў 1-га жніўня.

Ад мяне спачуваньне ўсёй радні Эльзы-Элізаветы.

Ёй - вечная памяць!

*Кастусь АКУЛА*

## АХВЯРАВАНЬНІ НА БІНіМ:

**НА ВЫДАНЬНЕ СЛОЎНІКА:**

**У памяць Уладыкі Мікалая**

| | |
|---|---|
| Парафіяльная рада царквы імя К. Тураўскага ў Таронта | $500 |

**У памяць братоў Ганькоў:**

| | |
|---|---|
| М. Ганько | канад. дал. 500 |

**У памяць Зоры Кіпель:**

| | |
|---|---|
| М. Ганько | канад. дал. 1500 |
| М. Латушкін | 500 |
| Праф. Т. і М. Бэрд | 250 |
| К. і Я. Вініцкія | 150 |
| К. Балярыні | 100 |
| В. і А. Пранцэвіч | 100 |
| Др. М. Смаршчок | 100 |
| Р. Сміт | 100 |
| В. Кажан | 50 |
| І. Цупрык | 50 |
| А. і В. Шчэцкі | 50 |
| М. Швэдзюк | 50 |
| К. Акула | 30 |
| Х. Кажаневіч | 15 |

**У памяць Васіля Быкава:**

| | |
|---|---|
| К. Акула | 100 |

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА" АХВЯРАВАЛІ:

| | |
|---|---|
| І. Ільчук | 100 |
| М. Смаршчок | 100 |
| В. і А. Дубяга | 70 |
| Р. Галяк | 50 |
| М. Ганько | 50 |
| В. Яфрэменкаў | 50 |
| В. Гурскі | 30 |
| П. Грыгальчык | 20 |

**Усім шчыры дзякуй!**

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае штомесячна:
БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІН-Е
Падпіска $30 на год.
Чэкі выпісвайце на BIELARUS
**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASS'N, Inc.
Subscription $30 yearly
Make checks payable to BIELARUS
Рэдагуе калегія.
Адказны рэдактар
Марат Клакоцкі
Падпіска
Сяргей Трыгубовіч
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.
Перадрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.

Адрас для дапісаў і кантактаў:
BIELARUS
P.O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735
E-mail:
hazetabielarus@att.net
Сусьветнае сеціва:
www.bielarus.org
Адказнасьць за зьмест рэкламы нясе рэклямадаўца.